ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association

*P.O. Box 178*
*Jamaica, New York 11432*
*U.S.A.*

№ 345 Год выд. XXXVII — Сакавік 1988

## МАНІФЭСТ
## РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
### да 70-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году

Беларускі Народзе!
Суродзічы-Беларусы!

Семдзесят гадоў таму, 25 сакавіка 1918 году, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, маючы мандат ад 1872 дэлегатаў Беларускага Народу, папоўненая «прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў», абвесьціла Беларусь «у рубяжох расьсяленьня й лічэбнай перавагі беларускага народу» «незалежнай і вольнай дзяржавай».

Трэйцяя Ўстаўная Грамата пацьвердзіла «ўсе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія былі абвешчаныя Ўстаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 году», а гэта: свабоду слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, роўнае права моваў народаў Беларусі, бязумоўную свабоду сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня ды пераданьне зямлі бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць.

Рада БНР, пратэстуючы сваім Актам Незалежнасьці супраць падпісанай бальшавіцкай Расеяй і кайзэраўскай Нямеччынай умовы аб падзеле Беларусі, заяўляла, што «трацяць сілу ўсе дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае насмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі».

Хоць Расея зь Нямеччынай і ваявалі міжсобку, але абедзьве яны, кожная дзеля сваіх інтарэсаў, выявіліся ворагамі беларускае дзяржаўнасьці: Нямеччына забавязалася перад Расеяй не прызнаваць ніякіх новых дзяржаўных сфармаваньняў на тэрыторыі былое царскае імпэрыі. Гэтак вось бальшавіцкая Расея разагнала сілаю зброі Ўсебеларускі Кангрэс у сьнежні 1917 году, а кайзэраўская Нямеччына паставілася варожа да дзейнасьці Народнага Сакратарыяту (ураду) БНР. Апрача гэтых двух акупантаў, трэйцім ворагам незалежнасьці Беларусі сталася Польшча зь ейным імкненьнем да аднаўленьня «свае» ўсходняе мяжы з 1772 году.

У няроўным змаганьні за сваю дэмакратычную дзяржаву Беларускі Народ хоць і не адваяваў свабоды й незалежнасьці, але замацаваў самую ідэю нацыянальнае дзяржаўнасьці, прадэманстраваў наважанасьць змагацца за ўжыцьцёўленьне гэтай ідэі. Ідэал незалежнасьці застаецца й надалей пуцяводнай зоркай для патрыётаў Бацькаўшчыны. Гэтым ідэалам кіраваліся верныя сыны й дочкі Беларусі ў міжваенным часе паабапал лініі падзелу роднага краю, гэты ідэал паказваў шлях да дзеяньня гадамі Другое сусьветнае вайны, ён застаўся і ў паваенным пэрыядзе натхняльнай крыніцай для новых пакаленьняў патрыётаў як на Бацькаўшчыне, гэтак і на Чужыне. Ідэяй нацыянальнай свабоды, дэмакратыі, роўнасьці кіруюцца і сучасныя абаронцы беларускасьці ў савецкай Беларусі, дзе русыфікацыйная этнацыдная палітыка паставіла Беларускі Народ перад пагрозаю духовага выміраньня.

Існасьць русыфікацыі ў тым, што русыфікацыя служыць расейскаму імпэрыялізму, расейскай экспаньсіі ў сьвеце. Беларусы паміраюць у Афганістане, прадукт сельскае гаспадаркі й прамысловасьці Беларусі рассылаецца па шырокім сьвеце, а тымчасам жыхарства рэспублікі не забясьпечанае гароднінай, будаўнікі — будаўлянымі матар'яламі, лекары й дэнтысты — патрэбнымі прэпаратамі, хатнія гаспадыні — рэчамі штадзённага ўжытку; беларускія вучоныя змушаныя карыстацца застарэлай тэхнікай.

Ніводзін савецкі эканаміст не давёў яшчэ на аснове канкрэтных лікаў матар'яльную выгаду для Беларусі ад належаньня да СССР. Наадварот, савецкая цэнзура хавае статыстыку, каб ня гэткім відавочным быў факт эксплятацыі ды кошт маскоўскага імпэрыялізму. Бязупынная паўтараньне савецкай прапагандай, што ў Беларускую ССР завозяцца зь іншых рэспублікаў Саюзу сыравіна й дэталі ды што БССР экспартуе свае вырабы ў 90 ці 100 замежных краінаў нічога не даводзіць, бо праўдзівую статыстыку імпарту ў рэспубліку ды экспарту зь яе цэнзура хавае ад народу.

Беларусь расплачваецца за расейскі экспаньсіянізм ня толькі матар'яльна, але й духова, сваёй культурай. Праводжаная з Масквы кампанія супраць г. зв. нізкапаклонства перад Захадам абярнулася для Беларусаў у нізпаклонства перад Усходам, якое прывяло да таго, што карэнныя жыхары краю ходзяць па вуліцах сваіх гарадоў «з гарбамі», адны ня ўмеюць, а другія ня могуць свабодна й адкрыта карыстацца сваёй мовай, каб ня быць абвінавачанымі ў «нацыяналізьме». «Сувэрэннасьць» БССР не прадбачыць нат кампэтэнцыі рэспубліканскаму міністэрству асьветы самому зацьвярджаць падручнікі зь гісторыі Беларусі або распрацоўваць мэтад выкладаньня роднае мовы ў сваіх школах. Як некалі ў царскіх сэмінарыях, настаўнікаў для ўсіх школаў рэспублікі пэдагагічныя інстытуты й цяпер рыхтуюць толькі парасейску. Русыфікаваныя выдавецтвы, тэатры, сродкі сувязі, сыстэма асьветы. Савецкая русыфікацыйна-этнацыдна палітыка на Беларусі куды грунтаўнейшая за царскую, бо праводзіцца яна ў эпоху ўсеагульнае пісьменнасьці й росту сродкаў масавае сувязі.

Хоць Беларусь уваходзіць у склад Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, членства БССР у ААН служыць ня гэтулькі справе прадстаўніцтва рэспублікі на міжнароднай арэне, колькі выкарыстоўваньню беларускага голасу як падгалоску імпэрскага цэнтру. Дзейнасьць дэлегатаў БССР у органах ААН, ЮНЭСКО, ЮНІСЭФ ды іншых міжнародных арганізацыях абмежаная бюджэтам і скаваная дырэктывамі з Масквы нагэтульки, што савецкая Беларусь і дасюль у цэлым радзе галінаў навукі й культуры ізаляваная ад вонкавага сьвету.

Урад савецкае Беларусі выявіўся няздольны належна бараніць інтарэсы сьвае рэспублікі, паставіць супраціў русыфікацыйнаму наступу на яе. Наадварот, шмат якія міністры ды іншыя высокія партыйныя і ўрадавыя чыноўнікі ператварыліся ў калябарантаў, прысьпешнікаў этнацыднага працэсу. Гэтым яны дыскваліфікавалі сябе як прадстаўнікі інтарэсаў Беларускага Народу, страцілі маральнае права гаварыць ад ягонага імя.

Дорага заплаціла Беларусь у складзе маскоўскай імпэрыі: сталінскі тэрор — раскулачваньне ды пагром г. зв. нацдэмаў — каштаваў сотні тысячаў ахвяраў людзьмі; хрушчоўска-брэжнеўскі «застой» прывёў да глыбокага крызісу беларускую нацыянальную культуру, да зьнішчэньня сотняў гістарычных помнікаў краю; гарбачоўская-ж публічнасьць («галоснасьць») карыстаецца тымчасам толькі касмэтыкай, каб прыхаваць усю тую спустошанасьць, да якое давяла Беларусь савецкая нацыянальная палітыка.

Рэагуючы на пошасьць гэтага зьнішчэньня, на эпідэмію дэнацыяналізацыі, узьнялося цяпер на самаабарону маладое пакаленьне Беларусаў, якое стыхійным рухам зьнізу, наўсуперак бюракратычным бар'ерам ды інэртнасьці бальшыні ўрадаўцаў, намагаецца павярнуць працэс у адваротны бок — да нацыянальнага адраджэньня. Няхай-жа ў гэтым руху маладых Беларусаў, у іхнай дзейнасьці для дабра роднага краю, як і ў працы ўсіх нас на карысьць Беларусі вядзе нас наперад ідэал дэмакратычнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі!

Жыве Беларусь!
Жыве ідэя Незалежнасьці Беларусі!
Чужына, 25 сакавіка 1988 году.

**ПРЭЗЫДЫЮМ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**



*Пагоня, дзяржаўны гэрб БНР, на задняй вокладцы пашпарту БНР № 958, які знаходзіцца ў Бел. аддзеле Нац. Этнічн. Архіву Канады (гл. «Беларус» № 315)*

## ПАЛЕСЬСЕ І РАКЕТЫ

Палесьсе набывае сабе славу трагічнае зямлі. Блізу два гады таму аб Палесьсі сьвет шырака даведаўся з прычыны аварыі на Чарнобыльскім рэактары. А нядаўна выявілася, што Палесьсе густа застаўленае ракетамі сярэдняга радыюсу дзеяньня, кожная з трыма ядзернымі баявымі галоўкамі. Калі-б паляшуку хто-небудзь напярэдадні леташняга падпісаньня пагадненьня ў Вашынгтоне сказаў, што на беларускім Палесьсі стаіць шмат ракетаў, ён, чаго добрага, сказаў-бы, што гэта выдумка. Але вось у мэмарандуме, які падпісалі 8-га сьнежня Прэзыдэнт Рэйган і Генэральны Сакратар Гарбачоў, падаюцца назовы палескіх гарадоў і вёсак, каля якіх ракеты сярэдняга і карацейшага радыюсу дзеяньня стаяць у баявой гатоўнасьці: Жыткавічы, Петрыкаў, Мазыр, Рэчыца, Пінск, Маларыта, Слуцак, Засімовічы. Там стаяць па 9, 6, 5 ракетаў, усіх 67 з агульнага ліку 470, якія Савецкі Саюз наставіў на Заходнюю Эўропу. Пятнаццаць працэнтаў усіх савецкіх ракетаў сярэдняе дальнасьці разьмешчана на беларускім Палесьсі. Жыхары Палесься напэўна й не падазравалі, што іхная зямля сталася плянцдармам для савецкіх ваенных начальнікаў.

Згодна з падпісаным у Вашынгтоне пагадненьнем, ракеты гэтыя будуць прынятыя й зьнішчаныя на працягу трох гадоў пасьля ратыфікацыі ўмовы. Можа тады паляшукі змогуць узьдыхнуць свабодна, можа тады й забароненых зонаў на Палесьсі будзе менш. Але штосьці з гэтае зброі, напэўна, і застанецца. Што, колькі —

*(Працяг на 3-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# НАВУКА Й КУЛЬТУРА Ў ІЗАЛЯТАРЫ

БССР, бадай, ці не адзіная савецкая рэспубліка, якая ня мае свайго зборнага каталёгу замежнае пэрыёдыкі, ня мае сталага ўліку інфармацыі аб рэспубліцы ў заходніх мовах. Беларускія навукоўцы й дасьледнікі розных галінаў ня маюць сталага, шырокага доступу да інфармацыі ў заходніх часапісах. Тымчасам у ЗША й Канадзе выходзіць каля паўсотні навуковадасьледных славістычных часапісаў. Каля дзесятка славістычных часапісаў выходзіць у Заходняй Эўропе ды гэтулькі-ж публікацыяў з галіны славістыкі друкуецца на далёкім Усходзе, пераважна ў Японіі ды Аўстраліі. Ува ўсіх гэтых выданьнях закранаецца таксама тэматыка беларуская: найболып літаратура, лінгвістыка, але таксама й эканоміка, дакладныя навукі, аграномія.

Прыкладам, летась на працы беларускага гісторыка, сёньня ўжо нябожчыка, Міколы Ўлашчыка паклікаліся канадзкія навукоўцы; Улашчыкава праца пра беларускія касьцюмы (у гістарычных крыніцах) дыскутавалася ў Францыі й Нямеччыне. У Ізраілі шырака ведамыя працы зь гісторыі Беларусі XIX ст. Сусаны Самбук, а ў Канадзе — праца пра сялянскія перасяленьні П. Д. Верашчагіна. Летась колькі амэрыканскіх і ангельскіх часапісаў закранаді пытаньні эканомікі БССР, праблемы транспарту, пісалі пра Менскае мэтро ды г.зв. Беларускі экспэрымэнт на чыгунцы.

Зь літаратурных твораў абмяркоўваліся ў англамоўным друку творы Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Івана Чыгрынава, Івана Шамякіна ды іншых.

Працы беларускіх навукоўцаў рэфэруюцца ды выкарыстоўваюцца ў дакумэнтаваньні ў дзесятках англамоўных часапісаў. Аўтарытэтны амэрыканскі часапіс «Паказьнік Навуковых Цытатаў», які выдаецца Амэрыканскім Інстытутам Навуковае Дакумэнтацыі ў горадзе Філядэльфіі, вядзе сыстэматычны ўлік працаў і беларускіх навукоўцаў. Паводля амэрыканскага мэдыцынскага часапісу «Індэкс Мэдыкус», за мінулыя два гады ў ангельскую мову было зрэзюмавана каля 50 большых працаў мэдыкаў савецкай Беларусі, а працы беларускіх дактароў былі выкарыстаныя блізу ў 100 дасьледчых працах на Захадзе. Таксама выкарыстоўваюцца, перакладаюцца й дыскутуюцца працы беларускіх матэматыкаў, інжынераў ды асабліва батанікаў і аграномаў. Усе рэцэнзіі на беларускаведныя працы й кнігі беларускіх аўтараў, якія друкуюцца ў англамоўным друку, улічваюцца амэрыканскім часапісам «Кніжны Агляд» (Book Review Digest).

Працы беларускіх навукоўцаў ды творы беларускіх пісьменьнікаў шырака камэнтуюцца і ў мовах нямецкай ды францускай.

Нажаль, уся гэтая інфармацыя аб Беларусі застаецца няведамай і недаступнай для навуковых і пісьменьніцкіх кадраў БССР. Калі ў галінах інжынерных і дакладных навукаў АН БССР і атрымвае дзесятак-два англамоўных часапісаў, дык у галінах гуманітарных навукаў і літаратуразнаўства бібліятэкі рэспублікі не дастаюць ніякіх часапісаў з Захаду. (Дарэчы, на гэтую нястачу інфармацыі ціраз наракалі беларускія літаратары й навукоўцы, якім даявлося трапіць замяжу). І пакуль савецкая Беларусь не даможацца доступу да ўсяе гэтае літаратуры, датуль інтэлектуальныя сілы ў БССР будуць працаваць у ізаляцыі і зь няпоўным патэнцыялам.

**Вітаўт Зубкоўскі**

## СТУКАЮЦЬ У СЭРЦЫ...

У газэце «Літаратура і Мастацтва» (25.XII.87) пісьменьнік Павал Пруднікаў, у артыкуле пад заг. «Іх лёс стукае ў сэрцы», напісаў:

«Калі мы кажам А, то павінны сказаць і Б.

«Вось у нашым Доме літаратара на адной зь яго сьцен, што вядзе ў бібліятэку, устаноўленая мэмарыяльная дошка зь імёнамі 26 беларускіх пісьменьнікаў, загінуўшых у гадох Айчыннай вайны. (...)

«Але-ж гэта толькі яшчэ А, ці праўда на паўслова. Поўная-ж праўда, ці, дакладней, справядлівасьць, можа быць толькі тады, калі побач з дошкай у гонар тых, хто загінуў на вайне, будзе ўстаноўленая такая-ж самая дошка зь імёнамі і тых пісьменьнікаў, якія трагічна загінулі ў гадох сталінскага тэрору. А іх у тры разы больш за тых, чые імёны значацца на ўжо ўстаноўленай дошцы. Прычым больш паловы зь іх — выдатныя пісьменьнікі нашай сучаснай беларускай літаратуры, на творах якіх мы выхоўваліся, у якіх мы вучыліся і працягваем вучыцца».

Аўтар далей называе шмат прозьвішчаў рэпрэсіяваных пісьменьнікаў.

### *ЦІ ПАЕДЗЕ ПАПА Ў СССР?*

Як напісала амэрыканская каталіцкая газэта Our Sunday Visitor (7.II.88), папа Ян Павал II робіць націск на савецкіх кіраўнікоў, каб яму было дазволена наведаць СССР. На прэсканфэрэнцыі ў Рыме Папа сказаў, што каталікі ў СССР ёсьць ня толькі на Ўкраіне, у Літве й Латвіі, але й на Беларусі, зь якімі ён хацеў-бы сустрэцца.

Паводля тае самае газэты, украінскі іншадумец Ёсіп Тэрэля, якому было дазволена выехаць у Канаду, «зьдзівіў некаторых ватыканскіх урадаўцаў інфармацыяй, якую ён прывёз у Рым пра каталікоў лацінскага абраду на Беларусі».

Паводля італьянскае газэты Il Messaggero (20.I.88), Масква не чакала нават 24 гадзіны, каб даць знаць, што справа візыту Папы ў СССР «ня была прадметам ніякіх дыскусіяў». «Як ведама, — піша 'Мэсаджэро', — перашкодай з гледзішча Ватыкану застаецца пытаньне прызнаньня свабоды рэлігіі для вуніятаў (каталікоў візантыйскага абраду) і дамаганьне ўтварэньня царкоўнай арганізацыі для каталікоў Беларусі».

## *ДАКУМЭНТ І ПАРТЫЙНАЯ «ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ»*

**Да гісторыі беларускага нацыянальнага руху ў 1917 годзе**

На зьезде беларускіх партыяў і арганізацыяў, які адбыўся ў ліпені 1917 году, была ўтвораная Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў. Савецкі гісторык Я. Карнейчык у юбілейным выданьні 4-га нумару часапісу «Весьці» АН БССР, прысьвечаным 50-годзьдзю Кастрычніка («Весьці», 1967, № 4, б. 50) пісаў:

«Уся дзейнасьць Рады (г. зн. Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў — Я.З.) зводзілася да зьбіраньня сіл *буржуазна-памешчыцкай контррэвалюцыі* (падкрэсьленьне наша — Я.З.) на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі».

У сваім артыкуле Карнейчык спасылаўся на кнігу Ф. Турука «Белорусское движение», што выйшла ў Маскве ў 1921 годзе. У кнізе Турука ёсьць дакумэнт (пра які Карнейчык, зразумела — ні слова) — Статут Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў. Першыя два пункты статуту паказваюць, якім хлусьлівым можа быць савецкі партыйны гісторык зь ягонай «марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй». У статуце-ж казалася:

«1. Адпаведальным кіраўніком і прадстаўніком ўсяе беларускае справы ёсьць Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў. Рада будуецца на прынцыпах: палітычным — поўнага дэмакратызму і сацыяльных — перадача ўсёй зямлі бяз выкупу працоўнаму народу і абарона інтарэсаў работнікаў.

«2. Рада складаецца з дэпутатаў, якіх пасылаюць усе беларускія арганізацыі, гэтаксама валасьці, гарады, мястэчкі, бежанскія арганізацыі і ваенныя часьці, калі прызнаюць патрэбу аўтаноміі Беларусі, роднай мовы і разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры».

Тагачасныя бальшавіцкія арганізацыі на Беларусі, як ведама, нічога з гэткае праграмы не прызнавалі, як не прызнаюць у вялікай меры і іхныя сучасныя спадкаёмцы ў БССР. Гістарычная-ж партыйная «навука» ў міжчасе, пры неапублікаваных шмат якіх дакумэнтах гістарычнае праўды, займаецца заціраньнем гістарычнае праўды, каб выкрыўляючы яе, выкрывіць і нацыянальную сьведамасьць Беларусаў.

**Я. З.**

## ЦІ ЁСЬЦЬ УМОВЫ ДЛЯ ДРУЖБЫ?

М. С. Гарбачоў на пленуме ЦК КПСС 18.II.1988:

«Сапраўдны інтэрнацыяналізм, сапраўдная дружба народаў магчымыя толькі пры глыбокай павазе да годнасьці, гонару, культуры, мовы і гісторыі кожнага народу, шырокіх сувязях паміж імі». (Настаўніцкая газэта», 20.II.88).

Пра тое, што на Беларусі няма ніякае пашаны да беларускае мовы з боку ўраду й кампартыі рэспублікі, у «Беларусе» апошнімі месяцамі было пададзена шмат фактаў і дакумэнтаў, у тым ліку два лісты беларускае інтэлігенцыі да Гарбачова (на якія, дарэчы, ніякага адказу гэтак і ня было дадзена).

А вось як выглядае «пашана» да беларускае гісторыі:

«У нашай літаратуры жанр гістарычнай прозы толькі распачынае сваё існаваньне. У нас ёсьць паасобныя творы, але мы ніколі ня мелі (і сёньня ня маем) пэўнай школы гістарычнай мастацкай літаратуры. Тое-ж можна сказаць і пра гістарычную навуковую літаратуру. Няма пакуль што і традыцыі павагі да роднай гісторыі, традыцыі сумленных адносін да гістарычнага матар'ялу, адмоўнага стаўленьня да паўпраўды, якая, як ведама, падманвае больш за фантастыку. Асабліва гэты недахоп адчуваецца ў навуковых распрацоўках, дзе пераважае тэндэнцыя». (Кастусь Тарасаў. Падзеі гісторыі і вэрсіі літаратуры. «Полымя», 1988, № 2, б. 197).

Як бачым, дасюль «дружба» паміж Расейцамі й Беларусамі нагадвае больш «дружбу» ваўка з авечкай...

## *ЦІ ПАМЫЛЯЎСЯ ЛЕНІН?*

Расказваюць, што ў 1960-х-70-х гадох у Савецкім Саюзе адным із спосабаў разагнаць кампанію была крытыка Леніна. Хапала пачаць гутарку на тэму, ці памыляўся Ленін, як група суразмоўнікаў адразу-ж разыходзілася. Але догма аб непамыльнасьці кампартыі ды ейнага заснавальніка, як выглядае, дажывае свой век.

На прэсканфэрэнцыі ў Маскве (паводля газэты «Московские новости», № 46, 15 лістапада 1987 г.) савецкім вучоным задавалі калішнія «падрыўныя» пытаньні. Вось адно зь іх: «Ці былі на працягу 70 гадоў выпадкі, калі партыя калектыўна памылялася?» На гэтае пытаньне член-карэспандэнт АН СССР Павал Валабуеў адказаў: «Тык. Прыкладам, да нядаўняга часу мы высака ацэньвалі тэарэтычную канцэпцыю разьвітога сацыялізму. Цяпер відаць, што выяўна пасьпяшаліся высоўваньнем яе ды аднабаковым трактаваньнем».

Другое ня менш важнае пытаньне: «Ці будзе калі-небудзь Ленін паказаны як шматмерная фігура, у якое былі і пэўныя памылкі?» Адказ члена-карэспандэнта АН СССР Юр'я Палякова: «Мы пакуль што аб гэтым неяк саромеемся гаварыць і, на маю думку, няправільна. (...) Памылкі, пэўна-ж, былі і ў яго — Ленін сам гэта прызнаваў».

## ЧУЖАРОДНЫЯ КАРАНІ БАЛЬШАВІЗМУ

Адзін зь дзеячоў бальшавіцкага падпольля на Беларусі ў 1918 г. Арон Крыніцкі (парт. псэўд. Бампі) пакінуў па сабе гэткае сьветчаньне ў часапісе «Пролетарская революция» (Масква-Ленінград, 1927, № 8-9, б.248):

«Камуністычная партыя (тады яна звалася Расійскай сацыял-дэмакратычнай работніцкай партыяй бальшавікоў) у нашым краі складалася ў бальшыні не зь мясцовых працаўнікоў. Гадамі імпэрыялістычнай вайны на Заходнім фронце працавала невялікая група старых тт. бальшавікоў, але якая вырасла ў 1917 г. ў арганізацыю й налічвала 28 000 членаў партыі й прыблізна гэтулькі-ж супачуваючых ды якая прадстаўляла сабой бальшай часткай салдатаў-франтавікоў, пераважна сялянаў з цэнтральных губэрняў. Яны былі за мір як салдаты і за зямлю як сяляне. Дзеля гэтага яны былі за бальшавікоў. Трэба падкрэсьліць, што партыя была вельмі слаба зьвязаная зь мясцовымі работніцкімі масамі ды карысталася сярод апошніх невялікім уплывам. Таксама і на вёсцы яна ня мела глыбокіх каранёў».

Гэткія вось карані бальшавізму на Беларусі. Па каранёх сёньня й лісьце трэба пазнаваць.

### АРЫШТ ЗА АДМОВУ АД ВОЙСКА

Лёнданскі аддзел праваабароннае арганізацыі Міжнародная Амністыя (МА) разаслаў прэсавы камунікат пра двух новых беларускіх вязьняў сумленьня: братоў Васіля й Мікалая Шустоў зь вёскі Печышчы Сьветлагорскага раёну на Гомельшчыне. Абодвы яны былі засуджаныя паводля артыкулу 77-га Крымінальнага кодэксу БССР за адмову адбываць рэгулярную ваенную службу. Браты Васіль і Мікалай Шусты — актыўныя хрысьціяне, і сваю адмову абгрунтоўвалі рэлігійнымі перакананьнямі. Савецкае заканадаўства ў гэткіх выпадках не дае ніякага альтэрнатыўнага выхаду, і дзеля гэтага МА ўважае абодвых засуджаных за вязьняў сумленьня.

Бацькі арыштаваных з дачкою ды двума іншымі сынамі жывуць у Печышчах.

### *МЭМАРАНДУМ ЗБВБ ВЕНСКАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ*

***Масква — неадпаведнае месца***

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі выслала мэмарандум Венскай канфэрэнцыі, на якой удзельнікі Заключнага Акту Гэльсынскага пагадненьня разглядаюць пытаньне, дзе павінна адбыцца наступная падобная канфэрэнцыя. Савецкая дэлегацыя прапануе Маскву. «Мы ўважаем, што Масква — неадпаведнае месца для гэткае канфэрэнцыі, — сказана ў мэмарандуме ЗБВБ, — бо Савецкі Саюз — гэта край, у якім бесьперапынна парушаюцца правы чалавека».

### НА СУСТРЭЧЫ З ПРЭМ'ЕРАМ ТАЧЭР

Сп. Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, быў запрошаны разам з жонкай на сустрэчу з Прэм'ерам Маргарэтай Тачэр. Сустрэча, ладжаная Фінчлейскім (Фінчлей — раён Лёндану) Камітэтам Прыяцеляў Ізраілю, адбылася 7 сакавіка.

### «УСХОДНЯЯ ЭЎРОПА» ПРА БЕЛАРУСЬ

Выдаваны ў Лёндане бюлетэнь навінаў Eastern Europe (выходзіць што другі тыдзень на 8 старонках кампактнага друку; гадавая падпіска: 365 ам. даляраў) зьмясьціў у першым сёлетнім нумары агляд апошніх падзеяў на Беларусі. У аглядзе пададзена пра выявы росту беларускае нацыянальнае сьведамасьці, пра рух за адраджэньне нацыянальнае культуры ды пра замену другога сакратара ЦК КПБ Беларуса Генадзя Барташэвіча Расейцам Нікалаем Ігруновам. Гэтую замену бюлетэнь тлумачыць патрэбай большага контролю рэспублікі маскоўскім цэнтрам.

### МАСАВАЕ ЗАБОЙСТВА

Напрыканцы студзеня-пачатку лютага сёлета заходнія агенцтвы друку падалі за газэтай «Советская Белоруссия» (31.I.88) пра пакараньне сьмерцяй Г. Міхасевіча, які на працягу 15 гадоў забіў 33 жанчыны ў ваколіцах Віцебску. Пракуратура БССР, як цяпер выяўляецца, пакуль знайшла запраўднага забойцу, «сурова пакарала» 12 нявінных асобаў, якіх, пасьля выкрыцьця Міхасевіча, «рэгабілітавалі». Але якое было пакараньне гэным 12-м, «Сов. Бел.» не напісала. Агенцтва Ройтэра ў паведамленьні 2-га лютага зазначыла: «Тыднёвік 'Літературная газета' пісаў у сьнежні 1986 г., што тыя 12 асобаў былі 'сурова пакараныя', а гэта звычайна абазначае кару сьмерці».

### *ЛЯГЕРНЫЯ ВЕРШЫ Л. ГЕНІЮШ*

Газэта «ЛіМ» (25.XII.87) зьмясьціла восем вершаў Ларысы Геніюш, напісаных у часе адбываньня ссылкі. Кароткі ўступ пра паэтку, назваўшы яе «беларускай Ахматавай», напісаў Вячаслаў Адамчык. Вось адзін з тых вершаў:

***Ня знаю***

*Ня знаю я: з гора ці з працы,*
*Ці зь лютых, як вораг мой, зім,*
*Я ўжо ня ўмею сьмяяцца,*
*Хоць й плакаць ня ўмею зусім.*
*Ні краты, ні цяжкасьць аковаў,*
*Ні штык і ня люты канвой,*
*Зрабілі мой воблік суровым,*
*І душу маю ледзяной.*
*Я собскага болю ня знаю.*
*Ад сэрца адорваны сын,*
*Вось толькі начамі, бывае,*
*Мне душу трывожыць адзін.*
*Пот ціха сьціраю з аблічча,*
*І голаў ўздымаю ізноў.*
*На нашай зямлі не палічыш*
*Такіх вось няшчасных сыноў.*
*Ад сьлёзаў народных разьліву,*
*Ад гора саломенных стрэх*
*Замоўк мой калісьці шчасьлівы,*
*Жаночы рассыпачаты сьмех.*
*Так, я ня ўмею сьмяяцца,*
*Праменную радасьць змаглі,*
*Усё-ж умею, як волат, змагацца,*
*Каб людзі сьмяяцца маглі!*

## ПАЛЕСЬСЕ І РАКЕТЫ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

няведома? Пытаньні гэткія ў савецкім друку не абмяркоўваюцца. Падобнымі сакрэтамі поўніцца ўсё жыцьцё савецкіх людзей, у тым ліку й жыхароў Палесься.

У Амэрыцы, прыкладам, або ў Заходняй Нямеччыне, або ў Англіі людзі ведаюць пра ракетныя базы, пра іх гавораць у парлямэнтах, пра іх пішуць газэты, расказвае тэлебачаньне. Каля ракетных базаў грамадзяне мітынгуюць, дэманструюць, выказваюць сваё незадавальненьне і гэтым робяць уплыў на грамадзкую думку, на заканадаўства, на палітыку свайго ўраду, на ход падзеяў. Але гэта ўсё на Захадзе. У Савецкім Саюзе, на тым-жа Палесьсі, людзям ніхто нічога ня кажа, у іх ніхто нічога ня пытаецца, улада ўважае, што справа абароны не належыць да кампэтэнцыі грамадзтва. Трэба высяліць людзей, каб зрабіць палігон для самалётаў або ракетаў, узялі й высялілі цэлымі вёскамі, як гэта было на Палесьсі.

Калі вы зірнеце на карту Беларускай ССР 1954 году выданьня, дык пабачыце, што на Палесьсі на мяжы Гомельскай і Брэсцкай вобласьцяў былі гэткія вёскі, як Храпуць, Рубрынь, былі маленькія хутары. Сёньня гэтых населеных пунктаў на карце няма, не таму, што іхныя назовы перайначаныя, а таму, што вёскі гэтыя былі зьнесеныя яшчэ ў 1960 годзе, а на іхным месцы пабудавалі ваенны палігон, абгарадзілі вялізарны кавалак тэрыторыі дротам ды абвешалі знакамі «Забароненая зона». Ну, а жыхароў тых вёсак, пэўна-ж, парасьселялі каго куды, лішне ня пытаючыся іхнае згоды.

Сёньня ў Савецкім саюзе час шырокае публічнасьці, абмяркоўваньня раней забароненых тэмаў, праблемаў. Партыя заклікае да распрацоўваньня тэматычнае цаліны пісьменьнікаў і журналістаў, тых, хто захапляецца цудоўнай флёрай і фаўнай Палесься. Ці напіша хто-небудзь зь іх калі-небудзь «журботны дэтэктыў» Палескае зямлі? Вось пытаньне, якое стаіць перад нашым калектыўным сумленьнем.

**Алесь Васілеўскі**

*АГЛЯД КНІГІ*

## «КРЫЖОВАЯ ДАРОГА» АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА

Калі 20-гадовы Аўген Калубовіч (1910-1987) быў арыштаваны ў 1930 годзе й сядзеў у гомельскай турме, ён верыў у тое, што «інквізыцыя Масквы не схаваецца ад зроку гісторыі». Вера выявілася прарочай. Сёньня мы сьветкамі — што за іронія гісторыі! — як Масква сама змушаная спрыяць выкрываньню ейнае-ж інквізыцыі. У Крамля, пэўна-ж, свае разьлікі, і далёка на ўва ўсіх злачынствах савецкая ўлада прызнаецца. Але ёсьць сьветкі маскоўскае інквізыцыі і не залежныя ад партыйнай цэнзуры. Да ліку іх належыць і Аўген Калубовіч. Ягоная кніга ўспамінаў «На крыжовай дарозе» (Кліўленд, 1986, 252 бб.) — каштоўная крыніца інфармацыі пра бальшавіцкія рэпрэсіі на Беларусі пэрыяду 1930-1934 гадоў. Калубовічава кніга стала побач няэньнішчальнага помніка ахвярам сталіншчыны, успамінаў Францішка Аляхновіча «У капцюрох ГПУ», што выйшлі ў Вільні ў 1937 годзе. У адрознасьць аднак ад Аляхновіча, які засяроджаны на псыхалягічным і бытавым аспэктах лягернага быту, Калубовіч падкрэсьляе больш ідэялягічны й гістарычны мамэнты: у яго, апрача адлюстраваньня нутранога сьвету вязьня, ёсьць спробы вылічыць колькасьць рэпрэсіяваных; ён апісвае сыстэму лягероў, дае даведкі пра некаторыя беларускія палітычныя арганізацыі (шкада толькі, што замала сказана пра ягонную-ж арганізацыю альтруістаў, за ўдзел у якой ён быў рэпрэсіяваны); аўтар падае — і гэта, бадай, найважнейшае — даведкі пра зьнішчаных дзеячоў беларускае дзяржаўнасьці, культуры й навукі. Вялікая дапамога ў карыстаньні кнігай — ейны іменны паказьнік, у якім названыя 315 прозьвішчаў.

Кніга Аўгена Калубовіча чытаецца лёгка, плынь апавяданьня ў ёй ўзбагачаная дыялёгамі, лірычнымі адыходамі, філязофскім роздумам.

Вось, дзеля прыкладу, урывак з разьдзелу «Лягерныя ямы» (б.б. 201-202): «Кожнае раніцы, як толькі скончыцца 'развод' на працу, брыгада 'дахадзягаў' (з тых, што яшчэ могуць неяк рухацца) абходзіць свой барак і правярае нары. Сьцягвае з нараў астыўшыя за ноч трупы. Прывязвае да вялікага пальца правай нагі біркі (на якіх днявальны піша імя й прозьвішча памерлага) ды валачэ іх за дзьверы. Тады абходзіць іншыя баракі 'лагпункту'. Із усіх трупаў яна здымае вопратку, абутак, бялізну. Усё гэта патрэбна для яшчэ жывых — такі загад ГУЛагу. Голыя трупы зносіць у сані ці на воз і, упрогшыся, заміж коней цягне да вахты. Там выкліканы 'дзежкомам' лекпом аглядае іх, упісвае зь бірак у рапарт памерлых з адзнакаю прычынаў сьмерці.

«Ля вахты 'дахадзягам' прыдаецца канвой, і яны цягнуць свой 'катафалк' за калючы дрот, да адкрытай, выкапанай імі-ж, ямы, куды ськіваюць целы нябожчыкаў, як чурбакі дрэва. Напоўніўшы імі адну яму й зьлёгку прысыпаўшы яе зямлёй, капаюць наступную. У ваднэй із такіх наступных неўзабаве будуць 'пахаваныя' і самі.

«Ямы! Незабыўныя лягерныя ямы! Колькі іх тут у кожным лягеры? Каля кожнага 'лагпункту' й 'камандыроўкі'?

«Сьпісы іхныя нікім не ўкладаюцца. Над імі ня ставяцца ніякія знакі — ні крыжы, ні таблічкі. Болей таго: яны хаваюцца ад людзкога вока й гісторыі. Таму зямля над імі зраўноўваецца з агульным узроўнем паверхні. І нішто тут ні ўлетку, ні ўзімку не паказвае, што гэта яма. Улетку месца зарастае травой, бур'яном, кустамі. Узімку — пакрываецца сьнежнай коўдраю. Бо-ж... гэта — ня 'брацкія магілы', а проста ямы, куды ськіваюцца 'людзкія адходы' з савецкіх 'фабрыкаў сьмерці'.

«Ськіваюцца бяз аніякага пахавальнага абраду. Бяз труны. Без сваякоў і сяброў. Без сьвятара.

«У лясных мясьцінах, пакуль ямы яшчэ не запоўненыя й адкрытыя, да іх уначы прыходзяць зграі галодных ваўкоў. Яны разьдзіраюць людзкія целы на кавалкі, аб'ядаюць зь іх скуру й уцалелае на касьцёх мяса.

«Ці даведаецца калі гісторыя, колькі ў гэтыя ямах 'пахавана' людзей? Хіба што толькі прыблізна».

Аўген Калубовіч на пачатку кнігі кажа: «Я ўсё жыцьцё адчуваў, што не споўніў аднаго абавязку: расказаць пра масавую гібель Беларусаў у савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягерох. Колькі разоў браўся за пяро яшчэ дома, у Менску. Укладаў пляны, рабіў чарнавыя накіды. Ды далей гэтага не пайшоў».

Напрыканцы свайго працавітага й нялёгкага жыцьця, выдаўшы шэсьць кніжак (сьпіс іх пададзены ў канцы агляданае тут працы), сьв. пам. Аўген Калубовіч выканаў усё-ж свой запаветны абавязак, які не даваў яму супакою — пакінуў па сабе сьветчаньне пра жудасны кошт будаваньня сацыялізму на маскоўскі лад.

Кніга Аўгена Калубовіча пра «крыжовую дарогу» застанецца трывалым помнікам усім тым, хто йшоў разам зь ім тэй «дарогай» на Галгофу камунізму. Вялікая заслуга ў зрыхтаваньні гэтага помніка ня толькі самога аўтара, але й ягонае вернае спадарожніцы жыцьця апошніх дзесяцігодзьдзяў, пэдагога й пісьменьніцы Іны Каханоўскай.

У слове «Ад Аўтара» выказаная таксама падзяка «за бескарысьлівую дапамогу» ў выданьні кнігі сп.сп. Ю. Наумчыку, К. Калошу, Ю. Каляду, В. Радзюку й С. Карніловічу.

Нехта зрабіў-бы вельмі добрую справу, калі-б пераклаў кнігу Аўгена Калубовіча ў ангельскую мову.

**Янка Запруднік**

*НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ*

### БЕЛАРУСКІ «ТРЫСТАН» ПААНГЕЛЬСКУ

У амэрыканскім выдавецтве Garland Publishing неўзабаве выйдзе кніга **Byelorussian *Tristan*.** Гэта — зроблены Зорай Кіпель пераклад у ангельскую мову зь беларускага манускрыпту XVI ст. пра слаўнага вяцязя Трыстана. Беларускі «Трыстан» — адзіная ведамая славянская вэрсія сярэднявяковага празаічнага раману аб Трыстану й Ізольдзе. Твор гэты вельмі важны для параўнальнага вывучэньня пераходаў ад стара-францускіх тэкстаў XIII ст. праз пасярэдніцтва пазьнейшых італьянскіх вэрсіяў да вэрсіі славянскай.

У гісторыі беларускай літаратуры тэкст «Трыстана» вельмі важны для вывучэньня мовы й звычаяў XVI стагодзьдзя.

Поўны пераклад твору, які зрабіла З. Кіпель, дапоўнены вялікім артыкулам, у якім разглядаецца тагчаснае беларускае асяродзьдзе, гаворыцца пра зацікаўленьне «Трыстанам» ды іншай заходнеэўрапейскай літаратурай, а таксама даецца параўнальны аналіз твору.

Кніжку (цана: 32 дал) можна набыць праз Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

BINiM
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

# ЖЫВЫМ ЗГАРЭЎ

**Ізі Харык, якім я знаў яго**

Чорная густая купа сукрыстых валасоў. Пад ёю выпуклы лоб і чорныя, вялікія разумныя вочы. За шкелцамі пэнснэ яны выдаюцца яшчэ большымі. А сам Ізі Харык чалавек сярэдняга росту. І ўсе яго ў даваенным Менску зналі. Ён — славуты гэбрэйскі паэт, зь лепшых найлепшы. І ня толькі паэт, ён — член ураду, член ЦВК БССР, член-карэспандэнт Акадэміі Навукаў БССР, галоўны рэдактар літаратурна-мастацкага часапісу «Зорка» («Дэр Штэрн»), член праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў у Менску і ў Маскве. І ён камуніст ад 1930 году. І верыць у савецкую ўладу. І шчодра аддае ёй увесь свой талент — выдае кнігу па кнізе — адну лепшую за другую: «Менскія балоты» («Мінскер блотэс»), «Душой і целам» («Міт лайф ун лэбн»), «Хлеб» («Бройт»), «Круглыя тыдні» («Кайлэхдыке вохн») і, нарэшце, у 1936 годзе, за год перад арыштам і шаснаццаць гадоў па выхадзе першага зборніка «Дрыжэньне» («Цытэр»), выходзіць ягоная апошняя паэма «На чужым вясельлі» («Аф а фрэмдэр хасэнэ»), пэўна найлепшае з напісанага ім.

Колькі гадоў мінула, а я ў думках бачу гэтую кнігу і чытаю яе. Яна пачыналася радком — памятаю яго ў ідыш — «Іх кендыр, Вайсрусланд, ахой ві іх кен майнэ айгенэ фінгер» — «Я знаю цябе, Беларусь, як свае собскія пальцы». Гэтая паэма і пазнаёміла мяне зь Ізем Харыкам.

У 1936 годзе, да выхаду кнігі, Харыку споўнілася трыццаць восем гадоў, мне было пятнаццаць. Я пісаў вершы, самыя першыя ў жыцьці, пісаў парасейску. Хоць ідыш быў наагул маёй першай мовай. Дзякуючы бацькам, я навет чытаў на-ідыш, ня гэтак добра, як парасейску, але чытаў. І мяне ўжо «заўважылі» — беларускі паэт Пятро Глебка ўзяў мяне ў вучні — вучыў мяне пісаць, а галоўнае — папраўляць вершы, вучыцца пісаць самому.

Але больш за ўсё на сьвеце я любіў чытаць вершы. І выпадкова трапіла мне ў рукі паэма Ізі Харыка «На чужым вясельлі». Пачаў яе чытаць і ня мог адарвацца, гэтак яна мне спадабалася. І я інстынктыўна пачаў перакладаць яе парасейску. Гэта быў мой першы пераклад, і ў добры ці нядобры час, — пэўна, усё-ж у добры — ён паклаў пачатак маім вельмілічным перакладам зь ідыш, беларускай, літоўскай ды іншых моваў у расейскую, асабліва па вайне — гэта вызваляла мяне ад пісаньня агітак і давала ладны прыбытак.

Я перакладаў да самае мае эміграцыі ў 1973 годзе — тут, у Нью-Ёрку, я не перакладаю, тут я пішу сваё. Але вярнемся ў 1936-ы год.

Я пераклаў, прыблізна, радкоў сорак зь першага разьдзелу вясельнае паэмы, перапісаў іх на вялікім аркушы ды надумаўся паказаць пераклад Харыку. Не для публікацыі, а каб даведацца, што ён пра гэта думае. Але як з Харыкам сустрэцца? Дзе яго знайсьці?

Я быў за месяц да таго на вялікім літаратурным вечары, дзе Харык чытаў вершы, — гучныя, мэлядыйныя, вобразныя. І я наважыўся: пайду ў саюз пісьменьнікаў, на рог Савецкае й Камсамольскае, у двупаверхавы дом, паўз якога я часта праходзіў. Прыйшоў, зайшоў у пад'езд із сходамі нагару і зь дзьвярыма налева. Пастукаў у дзьверы, але яны былі адчыненыя, і зь пярэдняга я трапіў у вялікі пакой, дзе колькі асобаў гулялі ў шахматы, а іншыя за даўгім сталом чыталі газэты й кнігі. Двух шахматыстаў я пазнаў — гэбрэйскага паэта, драматурга й празаіка Майсея Кульбака (яго пасьля расстралялі) ды беларускага паэта Аркадзя Куляшова, майго пасьлейшага добрага сябру. Я папытаўся, ці няма тут Харыка? Мне адказалі: ён тут, але на апседжаньні на другім паверсе. Калі паседжаньне скончыцца, ён, натуральна, зыйдзе наніз. «Пачакайце, малады чалавек», параілі мне. Зразумела, я пачакаю.

За нейкае паўгадзіны ці гадзіну Харык зьявіўся, стаў хутка спушчацца па лесьвіцы, ён выяўна сьпяшаўся. Але я спыніў яго, сказаў: «Таварыш Харык, я хачу вам штосьці паказаць... Я пераклаў у расейскую мову пачатак вашай паэмы 'На чужым вясельлі'...»

Хоць відаць было, што ён сьпяшаецца, тым ня менш ён папытаўся: «А дзе твой пераклад?» Я хуценька дастаў зь кішэні складзены аркуш і працягнуў Харыку. Ён, сеўшы на падваконьнік, прачытаў пераклад раз, прачытаў другі раз і сказаў мне: «Хлопча, як гэта ты зрабіў? Вельмі добры расейскі паэт ня мог, як ні намагаўся гэта перакласьці!» — І папытаўся: «Ты сам, пэўна, пішаш?» Я адказаў: «Пішу». «Парасейску?» — папытаўся Харык. Я кіўнуў. «А чаму не пагэбрэйску? Ты-ж Гэбрэй. Як цябе завуць?» «Арон Купэршток», — адказаў я (Андрэем Клёнавам я стаўся куды пазьней). «Вось што, Арон, — сказаў мне Харык, — мне цяпер няма калі. Я вазьму твой пераклад і дома, у вольную часіну ўважліва прачытаю яго. Ён варты гэтага. А ты прыходзь да мяне ў нядзелю а дванаццатай. Захапі з сабой свае вершы — ты мне іх пачытаеш. Я жыву там-і-там... Дамовіліся?» Я падзякаваў і сказаў, што роўна а дванаццатай буду ў яго.

Харык жыў у адным зь лепшых менскіх дамоў, у зусім нядаўна збудаваным «доме спэцыялістаў», як яго звалі. Падняўся я на трэйці паверх, пастукаў у дзьверы. Мне адчыніла маладая жанчына, папыталася: «Вы да Харыка?» Я кіўнуў. «Я ягоная жонка. Харык вас чакае».

У Харыка былі госьці, тры асобы. Ён мяне ім прадставіў: «Гэта паэт-пачатковец Арон Купэршток». «А гэта, — ён паказаў на гасьцей, — ведамыя нашы пісьменьнікі. Ты іх, пэўна-ж, бачыў, а калі ня бачыў, дык чытаў: Зьмітрок Бядуля, Андрэй Александровіч і Зэлік Аксельрод». Яшчэ што! Як-жа іх ня ведаць?! Зьмітрок Бядуля, трэйці пасьля Купалы й Коласа беларускі клясык. Зразумела, я чытаў яго — ягоны раман «Салавей» гэтак мне спадабаўся, што я яго чытаў тройчы. Андрэя Александровіча я таксама чытаў і знаў напамяць, пабеларуску, пэўна-ж:

Эх, сасоніца-сасна:
Дні суровыя.
Бервяно да бервяна —
Хата новая...

А Зэліка Аксельрода, гэбрэйскага паэта, я таксама знаў — ён чытаў вершы перад Харыкам на літаратурным вечары і публіка вельмі цёпла сустрэла яго.

Харык прачытаў госьцям мой пераклад ягонае паэмы і папрасіў мяне прачытаць мае вершы. Вершы мае былі жахлівыя, навеяныя рамантыкай. Тым ня менш пісьменьнікі пахвалілі мяне і пажадалі ўдачаў. Я быў на сёмым небе ды, як бачыце, сустрэчу гэную запамятаваў. І гасьцей Харыкавых памятаю таксама.

*(Працяг на 7-й б.)*

## РОСТ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СЬВЕДАМАСЬЦІ

Выдаваная ў Амэрыцы газэта Ukrainian Weekly (7.II.88) зьмясьціла першую частку вялікага артыкулу Багдана Нагайлы пад заг. «Нацыянальнае самасьцьверджаньне на Беларусі ўсё больш відавочнае». Нагайла піша пра рух г. зв. нефармалаў (патрыятычных групаў), пра рэгабілітацыю беларускімі патрыётамі «Пагоні», як нацыянальнага сымбалю, ды зацікаўленьне «залатой парой» беларускае мінуўшчыны (часы Вялікага Княства Літоўскага).

## *УСПАМІН ПРА Ц. ГАРТНАГА*

З нагоды 100-годзьдзя нараджэньня аднаго з найлепшых сыноў нашай Бацькаўшчыны, шматпакутнага пісьменьніка й беларускага дзеяча Цішкі Гартнага, успомніўся маленькі эпізод, які запамятаўся на ўсё жыцьцё. Мне тады было 6-7 год. Жылі мы ў вёсцы-мястэчку Горкі Бабруйскага раёну, месьціліся ў школе, бо бацькі працавалі там. Вось аднаго дня яны чакалі прыезду да іх сябры, Цішкі Гартнага. Мае бацькі пачалі раіцца: трэба прыгатаваць для паважанага гасьця штосьці гэткае надзвычайнае, і прытым беларускае. Першым, апрача ўсялякіх іншых прысмакаў, пастанавілі зварыць сапраўдную беларускую капусту.

Добра памятаю, як прыехаў Цішка Гартны да нас: высокі лоб, пагарадзкому апрануты, і асабліва запамяталіся вялікія, круглыя, рагавыя акуляры... Як падарунак, прывёз ён маме ў вялікай глінянай паліванай кружцы мёд... Але потым, як была зьбянтэжаная й засмучаная мая мама, калі Цішка Гартны сказаў, што вельмі шкада не пакаштаваць такой капусты, але, на жаль, ня можа, бо мае вострую язву страўніка.

Вось так я сустрэла й запамятала назаўсёды Цішку Гартнага.

**Ірына Юхнавец**

## ІМЁМ БЕЛАРУСКАГА ФІЗЫКА

На сусьветным форуме вучоных-газадынамікаў, што адбыўся ў Польшчы, была ўстаноўленая міжнародная прэмія імя Рэма Салаухіна, акадэміка АН БССР. Мэта прэміі — заахвочваць да навуковых экспэрымэнтаў. Адно з апошніх вынаходзтваў беларускага вучонага — лазэр для рэзаньня й зварваньня мэталяў ды ўмацоўваньня паверхні розных матар'ялаў. Акадэмік Р. Салаухін памёр. (Паводля газ. «Зьвязда», 30.I.88).

## БЕЛАРУС-МЭДАЛІСТ НА АЛІМПІЯДЗЕ

На зімовых алімпійскіх гульнях у Калгары ў Канадзе беларускі канькабежац Ігар Жалязоўскі здабыў бронзавы мэдаль у бегу на 1000 мэтраў.

## *ЗВАРОТ ДА СТАРОГА ПРАВАПІСУ*

Зь неафіцыйнае крыніцы даведваемся, што на нядаўна адбытым «вальным сойме» (агульным зьезьдзе) беларускіх самадзейных аб'яднаньняў гісторыка-культурнага й краяведнага кірунку, праведзеным супольна з ЦК камсамолу рэспублікі, прынятыя пастановы былі напісаныя дарэформенай артаграфіяй (правапісам, якім у БССР карысталіся да 1934 г.). Гэта — яшчэ адзін з паказальных дэрусыфікацыйнага руху на Беларусі. Дарэформенным правапісам, паводля нашае крыніцы, карыстаюцца цяпер «найбольш сьведамыя людзі».

## *ВОСЕНЬ*

*Заўсёды так: сустрэнем восень —*
*Адчуем лета мілы час,*
*І доўга, доўга ў сэрцы носім*
*Салодкі смутак кожны раз.*

*Лятучых ніцей павуціньне*
*Залоціць сонца цьмяны бляск,*
*І сьпіць у цьмянай далячыні*
*Уціхамірана зямля.*

*Я ня сумую, ня журуся.*
*Па першым халаджавым дню:*
*Люблю я восень Беларусі,*
*Празрысты дзень і цішыню...*

(Ізі Харык. *Выбранае.* Менск, 1969, б. 43. Пераклад А. Звонака)

## КАНЦЛЯГЕРЫ Ў БССР

Фэдэрацыя амэрыканскіх прафсаюзаў (AFL-CIO) выдала летась кніжку пад заг. «Жорсткае й звычайнае пакараньне: прымусовая праца ў сучасным Савецкім Саюзе». На 120 старонках кнігі дадзенае апісаньне прымусовае працы й месцазнаходжаньне 358-х турмаў і канцэнтрацыйных лягероў.

Аўтар кнігі — Людміла Аляксеева, ведамая за ейную праваабаронную дзейнасьць. Аляксеева была змушаная выехаць з СССР у 1977 г. ды жыве цяпер у Вашынгтоне. Прадмову да кнігі напісаў старшыня прафсаюзнае фэдэрацыі Лэйн Кэрклeнд.

У кнізе названыя гарады Беларускай ССР, дзе знаходзяцца турмы й канцлягеры, у якіх выкарыстоўваецца праца зьняволеных: Івацэвічы, Віцебск, Ворша, Новаполацак, Гомель (жаноцкі лягер, у якім шыюць вопратку), Менск, Бабруйск, Горы-Горкі, Магілеў. У пераважнай бальшыні выпадкаў вязьні працуюць у дрэваапрацоўчай прамысловасьці ды займаюцца вырабам мэблі й сетак.

## БЕЛАРУСКА-ЛАТЫСКІЯ СУВЯЗІ

**«Панічная боязь ініцыятывы маладых»**

У «Беларусе» № 340 была інфармацыя пра воднае ралі-пратэст супраць затапленьня беларускіх і латыскіх земляў пад будаўніцтва гідраэлектрычнай станцыі (ГЭС). Ніжэй падаём яшчэ крыху цікавае інфармацыі з тае-ж газэты «Чырвоная Зьмена» (29.XII.87):

«Удзельнікі паходу сабраліся ў Друі і адправіліся ў дарогу. На працягу пяцёх дзён над берагамі Даўгавы гучалі беларуская й латыская мовы, народныя песьні. Гэта мерапрыемства прыцягнула ўвагу мясцовых жыхароў. Сваеасаблівы лясны сэмінар, праведзены моладзьдзю, выявіў агульнасьць поглядаў на адносіны да гісторыі, культуры, мовы народаў. (...)

«На імправізаваных канцэртах выступалі барды У. Паляўскас, І. Калнінш, С. Сакалоў, Д. Сідаровіч, рок-група 'Сьціклс', 'Мроя', 'Пошук'. Пяць дзён Беларусы й Латышы правялі разам. Завяршыў водны паход прыхільнікаў экалягічнага руху дзьвюх рэспублік фінальны мітынг.

«Праз некаторы час рашэньнем ураду Латвіі будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС было спыненае.

«— Раймонд, як аднесьліся людзі да вашага ралі! (пытаецца карэспандэнт «Чырвонае Зьмены» ў Латыша)

«— Пароэнаму. Большасьць падтрымалі. Але знайшліся й такія, хто выказаў недавер'е. Хадзілі недарэчныя чуткі, што беларускія й латыскія нацыяналісты плывуць узрываць ГЭС. Горка й сьмешна было чуць такое.

«— У чым бачыце прычыну?

«— Дрэнная інфармаванасьць і нейкая панічная боязь некаторых кіраўнікоў ініцыятывы маладых».

## ЛІСТ ЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

**Адказ «Прыхаджаніну зь Беластоку» (гл. «Беларус» № 341)**

**Ад Рэдакцыі:** *Роля беларускае мовы ў практыцы Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, пераважная бальшыня вернікаў якое — Беларусы, застаецца войстра надзёным пытаньнем. У парадку далейшага абмяркоўваньня гэтага пытаньня зьмяшчаем ніжэй асноўнае з даўгога ліста С. Ж., прысланага нам зь Беласточчыны. Мова аўтара ліста захаваная, папраўленыя толькі граматыка й правапіс. Пропускі азначаныя шматкроп'ем у дужках.*

* * *

(...) Відаць, ён, «прыхаджанін», не праваслаўнай парафіі, а якойсь іншай, якой трэба парозьніць нас і тым аслабіць, якой не па душы, што Праваслаўная Беласточчына ўмацняецца ў веры, будуе праваслаўныя цэрквы, ды яшчэ ў згодзе і пры помачы амэрыканскіх Суайчыньнікаў. Цэрквы гэтыя гуртуюць ля сябе нашых людзей і пабуджаюць разам са сваёй праваслаўнай верай трымацца ўсяго свайго роднага, сваіх традыцый, свайго народнага самасазнаньня. Пацьверджуюць гэта факты ва ўсіх тых месцах, дзе будуюцца новыя храмы на Беласточчыне і ў самым Беластоку. Шмат людзей, якія на пачатку будовы Сьв.-Духаўскага храму адыйшлі ўжо былі далёка ад Царквы, цяпер актыўна ў яе жыцьці ўдзельнічаюць.

Аўтар «ліста» (г. зн. «Прыхаджанін зь Беластоку» — рэд. «Б-са») піша, што «праваслаўныя цэрквы ў нас... у далейшым зьяўляюцца цэнтрам... расейшчыны, а зьмены, якія наступаюць, ідуць у кірунку «палянізацыі». Піша, што «духоўныя ў сваіх дамох у ніякім выпадку не паслугоўваюцца беларускай мовай» (...)

І дзе тая «расейшчына» нашай Праваслаўнай Царквы? Чы тая мова, якой нашы вернікі зьвяртаюцца да нас, гэта «расейшчына»? А мы зьвяртаемся да людзей у той самай мове — гэта «расейшчына»? Вернікі называюць мову, якой гавораць, «нашай, тутэйшай мовай», і мы зь імі гаворым «панашаму, патутэйшаму» — гэта кангламэрат зь перавагай беларускай і ў словах і ў вымове — гэта «расейшчына»?

Трэба бачыць розьніцу ў палажэньні праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы і ў нас. Там ёсьць шмат паасобных праваслаўных царкоўных арганізацыяў розных кананічных юрысдыкцыяў і ўсе гуртуюць свае рады па месцы свайго паходжаньня, або па нацыянальных прынцыпах. Зразумела, што каб вернікі не адыйшлі да іншай арганізацыі, стараюцца ўвыпукляць нацыянальныя прынцыпы.

У нас у Польшчы адна толькі праваслаўная каначічная арганізацыя — Аўтакефальная Праваслаўная Царква, у якую ўваходзяць ня толькі Беларусы, але людзі розных нацыянальнасьцяў, і было-б самагубствам Царквы, каб яна ўпрывілеявала якую-небудзь адну, нават найлічнейшую лічбова нацыянальнасьць.

Чы-ж язык, у якім адпраўляюцца ў нас багаслужэньні, гэта «расейшчына»? Гэта-ж язык-дзедка ўсіх славянскага паходжаньня народаў, гэта язык Сьвятых Кірылы й Мяфодзія, і гэта «расейшчына»? На Рашаўшчыне вымаўляецца ён з украінскаю вымовою, на Беласточчыне — зь беларускай. Чы-ж чуў «прыхаджанін зь Беластоку», каб нашы сьвятары вымаўлялі «Бог» зь літарай «г» (g), а ня «гаш», або «Гасподзь» зь літарай «г» (g), а ня «гаш»? Мы стараемся быць у згодзе з Апосталам Паўлам, які кажа, што прад Богам «няма Грэка і Юдэя, барбара, Ськіфа, раба, свабоднага, але ўсе і ўва ўсім Хрыстос» (Кал. 3,11). Ува ўказваных аўтарам «ліста» прыкладах рэлігійны фанатызм падаграваецца нацыянальным шавінізмам і [прыклады гэтыя] не заслугоўваюць, каб ім падражаць, бо несьлі за сабою мора крыві і сьлёз у мінулым, даўным і блізкім.

Што-ж касаецца да таго, што, як ён піша, «усё часьцей чуваць у царкве і вакол царквы польская мова», то гэта праўда, але не сьвятары гэтаму вінаватыя, а зусім іншыя абставіны, мяшаныя шлюбы і самыя адносіны да свайго нашых людзей, якія зьмянілі месца і абставіны жыцьця. Але не праваслаўныя сьвятары ў гэтым вінаватыя.

Што меў зрабіць сьвятар, калі да яго прыйшла моладзь, якая не разумела роднай мовы? Ня вініць сьвятара за тое, што сказаў ён зьвяртацца «прошэн ксендза», а лепш запытаў-бы свайго брата, чаму ён не навучыў сваёй дачкі бацькаўскай мовы, бо напэўна ня мог-бы так адказаць ствятар, каб яна зьвярнулася да яго ў сваёй бацькаўскай мове. (...)

Так званы «прыхаджанін» пісаў у сваім «лісьце», што «амэрыканскія Беларусы складалі вялікія сумы даляраў, прызначаных на пабудову цэркваў на Беласточчыне». Для нас яны былі вельмі вялікія, бо адзініцы ў многія сотні нашых злотых замяняліся. Можа былі яны вялікія і для Ахвярадаўцаў, бо-ж яны [Ахвярадаўцы] не мільянеры, а людзі цяжкай працы і даляраў як лісьцяў на дрэвах ня зьбіралі, але веліч гэта была ў сотнях, рэдка перавышала тысячу даляраў.

Была яна аднак толькі часткай агульнай помачы, атрыманай намі зоўня [звонку]. Нам памаглі хрысьціяне Галяндыі (лютаране, кальвіністы, каталікі). Памагла нам невялікая Праваслаўная Царква Японіі, памагла також невялікая Фінская Праваслаўная Царква. Памаглі нам паасобныя парафіі і паасобныя людзі з Канады, Аўстраліі, памагла нам і Амэрыканская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

Ня лёгка было нам прасіць. Слова Божае гаворыць «блажэньнее даць, чым прымаць», але бяз гэтай дапамогі мы-б яшчэ і сьцен не пабудавалі, а так Богу і Добрым Людзям — а ў тым і нашым Дарагім Суайчыньнікам — дзякуючы, у ноч на Раство Хрыстова ў дольнай пяшчэрнай царкве будаванага Сьв.-Духаўскага храму была адпраўленая ўжо першая служба Божая. (...)

Пашквілянт катэгарычна прыказвае амэрыканскім Беларусам: «Даючы грошы на пабудову цэркваў на Беласточчыне, павінны юрыдычна да-

*(Працяг на 8-й б.)*

## АБ ПРАВАСЛАЎНЫХ У ПОЛЬШЧЫ

Папулярны францускі часапіс L'Express (22.I.88), які выходзіць таксама ў Бэльгіі пад наз. Le Vif/L'Express (15-21.I.88), зьмясьціў артыкул Бэрнарда Лекомта пад заг. «Палякі ня зусім каталікі». Ход у артыкуле пра 650 тысячаў праваслаўных у Польскай Народнай Рэспубліцы, бальшыня якіх жывуць на Беласточчыне й Падляшшы. У ілюстраваным артыкуле падаюцца выказваньні канкрэтных асобаў аб тым, што «ня лёгка быць праваслаўным у гэтай краіне», гаворыцца пра напружаныя дачыненьні паміж праваслаўнымі й рухам «Салідарнасьць». На адной з фатаграфіяў — праваслаўны вернік моліцца на сьв. гары Грабарцы, густа застаўленай крыжамі.

*Заслужанага нацыянальнага дзеяча й нашага шматгадовага супрацоўніка*

**сп. МІКОЛУ НІКАНА**

*якому 3-га студзеня сёлета споўнілася 80 гадоў жыцьця, шчыра вітаем з угодкамі ды зычым добрага здароўя й далейшага плёну ў шматбаковай грамадзкай працы й асабістым жыцьці.*

**Рэдакцыя «Беларуса»**

*Нашага супрацоўніка й шматгадовага працаўніка на беларускай грамадзкай і рэлігійнай ніве*

**сп. ВАСІЛЯ ШЧЭЦЬКУ,**

*якому 18 сакавіка сёлета споўнілася 65 год жыцьця, шчыра вітаем з угодкамі нараджэньня ды зычым шмат-шмат гадоў здароўя й плённае працы, а таксама ўсякае памыснасьці ў асабістым жыцьці.*

**Рэдакцыя «Беларуса»**

### ДАР САКАВІКА

Кожнага году ў месяцы сакавіку скарбнікі сэктараў Рады БНР праводзяць традыцыйны збор дабраахвотных ахвяраў на «ДАР САКАВІКА». Гэтыя ахвяры Рада БНР выкарыстоўвае на абарону беларускага імя ад варожых паклёпаў ды дзеля ўдзелу ў міжнародных палітычных зьездах і канфэрэнцыях.

Просьба да ўсіх Беларусаў падтрымаць «Дар Сакавіка».

**Галоўны Скарбнік Рады БНР**

### ПАДЗЯКА

Гэтым выказваю шчырую падзяку Прэзыдыюму Рады БНР, Галоўнай Управе БАЗА і ўсім маім сябром і прыяцелям за памяць, за прывітаньні й добрыя пажаданьні з нагоды 85-х угодкаў майго жыцьця. Я высока цаню Вашую ўвагу, Вашае сяброўства й жадаю, каб Бог меў Вас у сваёй апецы.

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч**

## «МАГІСТРАТ»

**Беларуская рок-група**

На Беларусі цяпер пашыраецца самадзейны рух моладзі, засноўваюцца групы, клюбы, гурткі самых розных кірункаў, агульны назоўнік для якіх — руплівасьць пра сваё прыроднае й культурнае навакольле. Аб характары й сьціраванасьці групаў культурнага характару можна меркаваць паводля ніжэй зьмешчанага ўрыўку з рэпартажа Віктара Мартыненкі пра рок-групу "Магістрат". Рэпартаж быў зьмешчаны ў газэце «Ніва» (8.XI.87).

---

Я разумею, што першай і да канца сьвядомай беларускай рок-групай стала «Мроя»; я згаджаюся, што шырокая папулярнасьць «Бонды» зусім апраўданая... Але калі цяпер просяць назваць лепшую на мой погляд рок-групу ў сьвеце, я перш за ўсё называю «Магістрат», музыка якога пасялілася ў душы...

А пачалося ўсё ў 1985 годзе, калі ў менскім кафэ-клюбе «Сузор'е» я ў складзе аргкамітэту па стварэньню рок-клюбу прысутнічаў на праслухоўваньні тагачасных нашых патэнцыялаў...

І вось да нас з А. Мяльгуём (будучым прэзыдэнтам рок-клюбу) падыйшлі нейкія тры валасацікі й папрасілі даць і ім магчымасьць паказаць свай гэві-мэтал.

Я хоць і люблю цяжкі рок, але скептычна аднёсься да гэтых, як здавалася, аматараў ашарашыць публіку грукатам і скрыгатам. Нават назвы сабе эфэктыўнай прыдумаць ня здолелі, згадзіўшыся выступаць як «Кантынэнт».

Як-бы тое ні было, але вось «валасацікі» выйшлі на сцэну...

— Ну, — думаю, зараз грымне...

Але...

Залю напоўніў чысты, сакавіты й напружаны гук. Гэта быў сапраўдны цяжкі рок, але такі мяккі й зграбны, што міжволі зьявілася думка аб прафэсіяналізьме.

— Майстры! — выказаўся нехта побач.

— Сапраўдныя магістры сваёй справы — дадаў знаёмы настаўнік.

На самай справе, музыканты хоць і ня мелі яшчэ ступені магістраў, але, як аказалася, рабілі дзейсныя крокі да прафэсіяналізму ў музыцы: тады, у свае 17-20 гадоў яны былі студэнтамі Менскага культурна-асьветнага вучылішча па клясе народнай музыкі. І гэта была самая маладая рок-група ў беларускай сталіцы.

Вывучаць фальклёр, а іграць гэві-мэтал... Камусьці гэта здасца дзіўным. Але, бадай, менавіта таму іхны гэві-мэтал — такі нязвычайны і ні на што не падобны — прымушае нашу закасьнеўшую джынсавую моладзь адрадзіць нейкую жывую крынічку ў сваёй душы. Ня раз потым даводзілася чуць на канцэртах «Магістрата» (гэтае празваньне і прыклеілася за ім, калі ён пачаў канцэртаваць са сваёй цудоўнай беларускай праграмай ад рок-клюбу «Няміга») замест прывычнага «Ещё давай!» — роднае «Яшчэ, калі ласка!»

— Які твор пажелаеце? — пасяброўскі раяцца з публікай музыканты. Ім яшчэ нялёгка даецца родная мова ў размовах (школа-ж вучыла іншага), але праз песьню яны вяртаюць сьвядомасьць і сабе, і людзям.

Па зале прабягае ланцужок знаёмых ужо назваў:

— «Гэроям Грунвальда»!

— «Пугача» хочам.

— «Белую гадзюку» лепш. Ці «Мёртвыя мовы»!

І канцэрт працягваецца яшчэ доўга зь неаслабным энтузіязмам. Гучаць кампазыцыі, тэксты для якіх напісалі, спэцыяльна для «Магістрата», цудоўныя нашы маладыя паэты Сяржан Карсак, Анатоль Сыс, Пятро Ламан... Сярод публікі ўзьвіўся сьцяг БССР. Гэта значыць: «Мы з табой, наш 'Магістрат'!»

*(Працяг на 7-й б.)*

# З МАЙГО ПАДАРОЖЖА ПА ЗША

*(Пачатак у № 340)*

Палёт самалётам з Дэнвэру ў Ньюварк забудзецца таксама ня лёгка. Вылецелі зь вялікім спазьненьнем падчас бурлівай непагадзі. Маланкі бязупынна асьвятляюць хмары. А па хмарах самалётам, як самаходам па выбоістай дарозе. Так недзе аж да Чыкага. Пасьля стала лепш, але само прызямленьне ня было надта «далікатным». Нашая Галіна цярпела, але памагчы ёй мы нічым не маглі, апрача спачуваньня. А scotch заказвала яна сама.

Натальля чакала нас на лётнішчы. Каля першай гадзіны ўначы мы былі ўжо дома, у Самэрсэце. Канец першай часткі падарожжа, найдаўжэйшай, зарганізаванай Галінаю як нейкая навуковая экскурсія. Яна для мяне такой і была. Галіне й Васю за ўсё гэта застануся заўсёды ўдзячны.

Другая частка ўжо была дакладна запляванавая. Паездка ў Вашынгтон. Далучылася Надзя, а Васіль застаўся дома. І вось я адзін з дзьвюма жанчынамі! Ня ведаю, мо дзеля гэтага, але падарожжа не магло быць больш прыемным! Выехаўшы ўраньні самаходам, недзе апаўдні мы былі ўжо ў Александрыі ў штаце Вірджынія. Зьведаўшы крыху горад ды падсілкаваўшыся ў адным з самых старых рэстаранаў, каля 2-й папаўдні, мы ўжо ў нашым гатэлі Голыдэй-Ін у цэнтры Вашынгтону.

Фэдэральная сталіца — горад манумэнтальны, заснаваны ў 1790 годзе Джорджам Вашынгтонам і пабудаваны паводля пляну францускага афіцэра П'ера-Шарля Лянфана. Шырокія авэню, вялізарныя паркі, скверы. Цэнтральныя пункты гораду — Капітоль (будынак Кангрэсу) і Белы Дом. Горад адміністрацыі, вялікіх музэяў, міжнародных арганізацыяў, дыпламатаў, навукі, урэшце — горад турыстаў.

Каб ня траціць шмат часу, вось мы ўжо ў Нацыянальным Музэі Аэранаўтыкі й Космасу. Адчынены ў 1976 годзе, гэты музэй аб'ядноўвае надзвычайную калекцыю ўсіх лётных машынаў, пачынаючы ад арыгіналу Фляера з 1903 году, братоў Райтаў, Ліндбэргавага «Дух Сэйнт-Люісу», аж да арбітальнае лабараторыі «Скайлэб». Тут можна дакрануцца рукою і да скалы зь Месяца. Дзесяткі розных іншых аэрапланаў, ракетаў, касьмічных караблёў, скафандраў касманаўтаў ды розных інструмэнтаў. Музэй вельмі папулярны, бо каля 9 мільёнаў наведнікаў штогоду.

Нацыянальны Музэй Прыроднай Гісторыі. Хто цікавіцца гісторыяй старажытных цывілізацыяў, знойдзе тут усё патрэбнае для вывучэньня, або хто проста захапляецца, прыкладам, веліччу цывілізацыі Блізкога Ўсходу.

Музэй Мастацтваў і Індустрыі багатымі выстаўкамі паказвае навуковае й тэхналягічнае разьвіцьцё Злучаных Штатаў. Вышэй успомненыя музэі твораць частку гэтак званай Сьмітсонаўскай Інстытуцыі. Джэймс Сьмітсон — брытанскі вучоны мінулага стагодзьдзя, ахвяраваў каля паўмільёну даляраў са свае спадчыны Злучаным Штатам, каб стварыць «установу памнажваньня й пашыраньня ведаў сярод людзей». За гэтыя грошы былі пабудаваныя музэі, галярэя мастацтваў, астрафізычная абсэрваторыя й заапарк.

Мінаем іншыя музэі, мастацкія галярэі, але комплексу Кангрэсавай Бібліятэкі абмінуць ня можна. Былогрэхам! Галоўную чытальную залю можна аглядаць з галярэі наведнікаў. Вялізарны й цудоўна ўдэкараваны купал. Магла-б пазайздросьціць не адна сьвятыня. Тут-жа ў сапраўднасьці таксама сьвятыня — ведаў. Дваццаць мільёнаў кнігаў і брашураў у 60 мовах ды больш за 35 мільёнаў рукапісаў. Усе пошукі камп'ютэрызаваныя. Надзвычайнае багацьце. Вялікая прыгажосьць архітэктуры й мастацкага аздабленьня.

Вярхоўны Суд, Капітоль таксама пакідаюць па сабе моцнае ўражаньне, але Белы Дом — незабыўны. Пабудаваны ў стылі італьянскага Рэнэсансу, ён некалькі разоў рэстаўраваўся, дабудоўваўся, мянялася нутраная дэкарацыя. Багатыя калекцыі мастацкіх абразоў, партрэтаў. Зьведваньне Белага Дому, апрача зрокавага задаваленьня, выклікае й другое магутнае пачуцьцё, а гэта — усьведамленьне факту, што вось тут, у гэтым месцы, афіцыйна прыймаюцца пастановы, што вызначаюць ня толькі лёс Злучаных Штатаў, але й нашай Зямлі ды навет і ейнага наваколься. Як-жа зразумелым мне было пачуцьцё, выказанае Надзяю: «Я чуюся гордаю як грамадзянка гэтае краіны».

Помнік Вашынгтону бачны адусюль, акружаны амэрыканскімі сьцягамі ў колькасьці роўнай ліку штатаў. Мэмарыял Лінкольна над ракою Патомак, з прыгожаю статуяй гэтага-ж прэзыдэнта. Мэмарыял Томаса Джэфэрсона з круглаю калянадаю й купалам. Але найбольш незабыўны — гэта Помнік Вэтэранам В'етнаму. Спачатку групавая статуя ў бронзе: тры амэрыканскія жаўнеры, як жывыя, напамінаюць аб усіх тых, што аддалі там сваё жыцьцё. А іх было шмат — 58 тысячаў імёнаў выразаныя на даўжэзнай сьцяне з чорнага граніту. Грандыёзнае, амаль рэлігійнае пачуцьцё палоніць душу. Цяжка схаваць сьлязу, вымавіць слова, 58 тысячаў! Пры сьцяне, каля некаторых імёнаў вянкі, букеты кветак з нацыянальнымі сьцяжкамі, пісьмы палеглых, ад іх і да іх. Людзей мноства, у цішыні, у глыбокай духовай засяроджанасьці. Шмат хто зь іх шукае імя сына, брата, мужа, ці проста знаёмага. Некаторыя моляцца. Пакідаеш помнік неяк прыбіты гэтай людзкой трагедыяй, так сьвежай яшчэ ў нашай памяці.

Арлінгтон — другое месца нацыянальнага ўспаміну. Паміж гэрояў амэрыканскай гісторыі, палітычных і дзяржаўных дзеячоў, спачываюць Джон Кенэдзі і ягоны брат Робэрт. Помнік Няведамаму Жаўнеру. Зьмена ганаровай варты простая, але адначасна й велічная.

Вось і ўсё зьведанае, прынамся важнейшае. Але ня ўсё сказанае. Апісаць бачанае лягчэй, адчутае-ж — ня лёгка, або й немагчыма. Прынамся мне.

Дзякую, Надзя, дзякую, Галіна, за гэтых пару для мяне незабыўных дзён. Як часамі сонечны прамень ажывіць краявід, зьнюансуе ягоныя колеры, зробіць яго прыгожым і цікавым, так, мне здаецца, Вы спрычыніліся, кожная крыху пасвойму, да адчуцьця прыгажосьці й веліч бачанага.

**А. Арэшка**

*(Працяг у наступным нумары)*

### САЎТ-РЫВЭР: МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У Саўт-Рывэры, Н.-Дж., адчынілася 13 сакавіка ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры традыцыйная мастацкая выстаўка, якую штагоду гэтай парою ладзіць Беларуска-Амэрыканскае Таварыства Мастакоў і Ўмельцаў. Выстаўка будзе трываць да 27 сакавіка ўключна.

Далучайцеся да абаронцаў Беларускае мовы на Бацькаўшчыне — падтрымвайце й пашырайце газэту «Беларус»!

---

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ

і

АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ

запрашаюць Вас на сьвяткаваньне 70-х угодкаў абвешчаньня

НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

ў нядзелю 27 сакавіка 1988 г.

Урачыстая багаслужба адбудзецца ў Гайленд-Парку ў царкве Жыровіцкай Божай Маці (9 Рывэр Роўд), пачатак а 10-й гадзіне ўраньні.

Акадэмія (у форме банкету) будзе ў Нью-Брансьвіку ў гатэлі Гаят-Рыджэнсы (2 Олбаны Стрыт), пачатак а й-1 гадзіне папаўдні.

---

***З жыцьця ў Саўт-Рывэры, Н.-Дж.***

## ВЕЧАР СЬМЕХУ

Адбыўся гэты забаўны сцэнічны паказ, пад рэжысурай сп-няў Ірэны Цупрык і Вілы Л., у залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру 20 лютага.

Выступалі, як ужарт сказала сп-ня Цупрык, «менскія артысты», гэта значыць, бэлер-менскія: Люба Бахар, Стася Шумская, Аляксандра Шульжыцкая, Поля Клінцэвіч, Міхась Сенька, Сяргей Рагалевіч, Міхась Бахар, Пятро Звонны. Выступалі й самі рэжысэркі. З усіх гэтых «менскіх» артыстаў толькі Ірэна Цупрык і Віла Л. вучыліся акторства: першая у тэатральнай школе, а другая ў балетнай у Менску. Але ніхто зь іх не навічок на сцэне: усе яны ўжо выступалі ў «Вечары сьмеху» ў беларускім адпачынковым рэсорце «Бэлер-Менск»...

Уступ Ірэны Цупрык перабіла, падбегшы, Віла Л.: «Чаму гэта толькі ты ўсё гаворыш і гаворыш, а ня я?» На гэта пачуўся адказ: «Бо ты балярына, твая справа танцаваць, а не гаварыць».

— А я магу і танцаваць, і гаварыць, — з капрызам пахвалілася Віла Л., — і прадэклямавала, напісанае сумесна зь Ірэнай Цупрык, чатырохрадкоўе:

> Добры вечар, даражэнькія сябры!
> Калі ласка, да вясёлай грамады!
> Патанцуем, пасьпяваем мы для вас.
> Будзеце, напэўна, мець прыемны час.

І «даражэнькія сябры» мелі прыемны час.

Ірэна Цупрык прадэклямавала верш Ул. Караткевіча «У спрадвечнай Бацькаўшчыне» і «Нясьпетая песьня» Алеся Бачылы. Вершы патрыятычныя, бязь сьмеху. Пачуўся сьмех у залі, калі Віла Л. і Люба Бахар распачалі свой «дуэт», стараючыся напераборй кожная паказаць свой талент. Вось Люба белым голасам зацягвае:

> Хлопец пашаньку пахае.
> Ой, ей, ей...

А Віла «опэрным» фальцэтам перабівае:

> О, Ліндор, каханы мой,
> Буду я навек з табой...

Не пасьпее Люба зацягнуць: «А ні лыжкі, а ні міскі...», як у залі ўжо чуецца рогат, бо пачнецца «арыя» Вілы...

У мяне, прызнацца, ад сьмеху цяклі сьлёзы, і ня толькі ў мяне.

У такім-жа камічным «ключы» быў інсцэнізаваны верш Кандрата Крапівы «Дзед і баба». Ірэна Цупрык чытала тэкст, а дзед (Міхась Сенька), баба (Поля Клінцэвіч) сядзелі на возе (на табурэтках) і сварыліся, бо іхны «конік» (Сяргей Рагалевіч) «з выгляду дарма, ды цягнуў ён слаба». Ды як ён мог пацягнуць, калі «тая баба сем пудоў»?..

Але Поля Клінцэвіч выступіла і не ў камічнай ролі — прасьпявала дзьве народныя песьні пад акардыён П. Звоннага.

Як змоўклі апладысмэнты, на сцэну выйшаў зь гітарай у руках, у самбрэра, гэтакі «сіньёр» Ліндор... Я доўга прыглядаўся, пакуль пазнаў у сіньёры інж. Міхася Бахара. Ён, з суровай мінай, усеўся на табурэтцы, а наваколь яго стала бегаць і чараваць знаёмым ужо «опэрным» голасам Кармэн (Віла Л.):

> Птушкай шпаркаю, свавольнай,
> Каханьне ў сэрца прыляціць...

Доўга яна яго чаравала, але Ліндор сядзеў, як мумія, нават па струнах ні разу не праехаўся... Затое ў залі «езьдзілі» ад сьмеху.

Пятро Звонны пацешыў аўдыторыю сваімі лірычнымі песьнямі.

Пасьля антракту быў паказаны скетч, напісаны Ірэнай Цупрык, пад назовам «Гласность». Дзея адбываецца ў калгасе «Чырвоны шворан». Першы раз у сваім жыцьці брыгадзір Нядбайла (Міхась Сенька), дзякуючы «галоснасьці», асьмеліўся сказаць на калгасным сходзе праўду: «Камбайны стаяць, а жыта асыпаецца... Трактар зламаўся — няма чым папраўць... Адным словам, поўны развал...». Жаліліся й іншыя калгасьнікі: сьвінарка (Стася Шумская), даярка (Поля Клінцэвіч), другая даярка (Люба Бахар), а таксама п'яніца Антон (Сяргей Рагалевіч: «Без алькаголю камунізму не пабудуеш...»

Сход, можа, цягнуўся-б даўжэй, калі-б сьвінарка не заявіла абвешнай мэдалямі старшыні (Ірэна Цупрык): «Хоць ты і старшыня, але спаць з маім мужам ня маеш права...». Тут ужо «галоснасьці» было зашмат. Старшыня адразу-ж зачыніла сход. Пакідаючы кантору, калгасьнікі засьпявалі

> Дзякуй табе, Гарбачоў,
> што галоснасьць нам увёў...

А Антон дадаў:

> Яшчэ лепей-бы зрабіў,
> каб калгасы распусьціў...

Старшыня-ж усьлед ім крычыць: «Іш, чаго захацелі! Сталіна на вас няма... Сталіна!..»

Пасьля гэтага гармідару выступіў ізноў Пятро Звонны зь дзьвюма сваімі песьнямі (ягоныя словы й музыка).

Праграма завяршылася танцам «беларускіх цыганак» (Аляксандра, Віла, Люба й Стася). Апісваць гэты танец я не бяруся. Скажу толькі, што, калі-б гэты танец пабачылі сапраўдныя цыганкі, то харэографу гэтай пародыі Віле Л. не паздаровілася-б.

Насьмяяліся ўдоваль. А да сьмеху арганізатары прычапілі яшчэ «давесак»: далікатэсы кулінарыі. Дзе вы знойдзеце за пяць даляраў такую лахву і для душы, і для страўніка? Часьцейбы такія «вечары».

**М. К.**

**Заклік**

# ПАДТРЫМАЙЦЕ БЕЛАРУСКУЮ ПЕСЬНЮ Ў БЕЛАСТОЧЧЫНЕ!

Працягам колькіх апошніх гадоў у Беласточчыне адбываецца традыцыйны ўжо конкурс «Беларуская Песьня». Канадыйскае Таварыства «Беларусь», адна з мэтаў якога — быць пасярэднікам у культурных сувязях зь Беларусьсю, актыўна далучаецца да сёлетняга конкурсу «Беларуская Песьня-88». Каб узбагаціць праграму конкурсу й збольшыць лік удзельнікаў у ім, таварыства «Беларусь» хоча ўзнагародзіць найлепшых мастацкіх інструктароў і ўдзельнікаў конкурсу «Беларуская Песьня-88». Ацэны будзе ўстанаўляць адмысловая камісія, якая будзе кіравацца гэткімі крытэрыямі: колькасьць падрыхтоўваных адзінак і занятыя імі месцы на рэгіянальных і цэнтральным аглядах; багацьце рэпэртуару; музычнае апрацаваньне; чысьціня мовы.

Канадыйскае Таварыства «Беларусь» зьвяртаецца да ўсіх прыхільнікаў роднай песьні з заклікам падтрымаць фінансава плян дапамогі арганізатарам конкурсу «Беларуская Песьня-88». На выдаткі на першыя тры ўзнагароды ды на арганізацыйныя кошты, як прадбачыцца, патрэбная будзе тысяча даляраў. Ахвяры прысылайце на адрас:

CANADIAN BIELARUS SOCIETY
4075 Old Dundas St. W. # B-2
Toronto, Ont, M6S 2R7
CANADA

Паколькі нашае таварыства тымчасам карыстаецца паслугамі парафіяльнае касы пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце, просім выпісваць чэкі на Parish of St. Kiryla of Turau з зазначэньнем, што гэта для Канадыйскага Т-ва «Беларусь».

У надзеі на Ваш водгук і са шчырай падзякай

ад імя Таварыства «Беларусь»

**Сьцяпан Прахарук**

## *«МАГІСТРАТ»*

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

І гэтае яднаньне адбываецца не па статкаваму інстынкту, а дзякуючы значна больш высокаму пачуцьцю — агульнай сьвядомасьці, якую нясуць маладым людзям гэтыя чацьвёра іх равесьнікаў: Ігар Ніканов іч, Алесь Рудакоў, Ігар Сакалоўскі, Сяржук Байкоў. А карацей кажучы — «Магістрат»:

Не зважаю шаленства пустога.
Кожны гук — ён ад сэрца ідзе,
Ад майго — да твайго, да другога...
Ты адчуй яго сэнс, зразумей.

Магістры мэталу, магістры мэталу
Расплаўленай думкі пякучы запал
Зальлюць табе ў вушы, зальлюць
і у душу,
А ты зразумей гэты цяжкі мэтал...

Гэтай візытнай краткай-песьняй групы і завяршу свой роспавед.

**Віктар Мартыненка**

## *«БОНДА» Ў ЗША?*

Паводля менскае газэты «Чырвоная Зьмена» (25.II.88), беларускую рок-групу «Бонда», якая ўдала гастралявала ў Літве й РСФСР, «сёньня запрашаюць на гастролі ў ЗША». «Да таго-ж, — піша 'ЧЗ', — ньюёркская фірма 'ЭйЭмЭс' выпускае міньён 'Бонды' пад назвай 'Белая хваля'».

## *БЕЛАРУСКІ РОК-ФЭСТЫВАЛЬ*

У Горадні на 11-13-га сакавіка быў заплянаваны «беларускі рок-фэст», у якім меліся выступіць рок-гурты, што сьпяваюць пабеларуску: зь Менску — «Мроя», «Бонда», «Альбарусія», «Гульня ў дождж», з Полацку — «Рокаш», з Гомелю — «Белы крук». Зь Беласточчыны быў запрошаны ансамбль «Дубіны». Фэстываль быў прысьвечаны 150-годзьдзю ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага.

**З жыцьця ў Нью-Джэрзы**

## ГАДАВЫ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

7-га лютага сёлета адбыўся ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Гайленд-Парку справаздачна-перавыбарны сход сяброў аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Уступаючая ўправа аддзелу (старшыня сп. Пётра Кажура) дала справаздачу зь дзейнасьці за мінулы год. За тое, што актыўнасьць была запраўды вялікая, управе былі прызнаны абсалюторыюм з падзякай.

У новую ўправу выбраныя: сп. Міхась Тулейка — старшыня, сп-ня Галіна Русак — заст. старшыні й культурна-асьветны рэфэрэнт, сп. Лявон Шурак — сакратар, сп. Янка Азарка — скарбнік, сп. Якуб Сапежынскі — сябра ўправы. У кантрольную камісію ўвайшлі сп.сп. В. Русак, Леў Стагановіч і Ўладзімер Машанскі.

Сп-ня Тамара Януш надалей засталася старшынёй жаночай сэкцыі, а сп. Юрка Азарка прадстаўніком Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

Перад новай управай стаіць вялікае заданьне працягваць і разьвіваць дзейнасьць аднаго з найбольш актыўных беларускі асяродкаў у ЗША. Памажы ёй Божа!

## У СЭКТАРЫ РАДЫ БНР

На паседжаньні 28 лютага старшыня сэктару зрабіў інфармацыю пра сучасную савецкую палітыку, заклікаў радных сачыць ход падзеяў у Беларусі. Былі абмеркаваная справы нутранога жыцьця беларускае грамады ў Нью-Бранасьвіку ды арганізацыйныя справы, зьвязаныя з сакавіковымі ўгодкамі. Было пастаноўлена папоўніць сэктар новым сябрам. Сэктар рыхтуецца адзначыць 150-я ўгодкі ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага.

***«Беларус» выходзіць толькі дзякуючы падпішчыкам і ахвярадаўцам. Ці падпісаліся Вы на «Беларус»?***

## ЗАПУСНЫ АБЕД

Стараньнямі царкоўнае ўправы (старшыня сп. Тамаш Супрун) 14 лютага, памаліўшыся Богу, прыхаджане парафіі Жыровіцкае Маці Божае ды госьці правялі прыемна час за супольнымі сталамі із смачнай ежай. Фізычная ежа дапаўнялася духовай: гутаркамі, песьнямі, жартамі, танцамі.

Усе былі ўдзячныя за працавітасьць і кулінарнае мастацтва сп-ням Галіне Харавец, Ані Лук'янчык, Але Дубяга ды Алегу Дубягу й Ніне Сільвановіч, якія дапамагалі ім.

Добра прайшла лятарэя, дзякуючы Жэні Дубяга й Віктару Дубягу.

## НОВАЯ ЦАРКОЎНАЯ ЎПРАВА

Прыхаджане парафіі Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ на агульным сходзе 20 лютага, падзякаваўшы сп. Тамашу Супруну за добрае старшынаваньне, выбралі новага старшыню ўправы, сп. Алега Дубягу. Склад рэшты ўправы застаўся ранейшы: Уладзімер Харавец — заступнік старшыні, Аляксандар Сільвановіч — скарбнік, В. Русак — сакратар, Янка Азарка й Янка Лук'янчык — сябры.

## ДАПАМОГА СУРОДЗІЧАМ У ПОЛЬШЧЫ

На дапамогу суродзічам-Беларусам у Польскай Народнай Рэспубліцы склалі грашовыя ахвяры наступныя асобы й арганізацыі:

| | |
|---|---|
| А. Шукелайць | ам.д. 60 |
| Р. Галяк | 20 |
| А. Ганэцкая | 20 |
| М. Рагуля | 20 |
| М. Грэбень | 20 |
| Я. Запруднік | 20 |
| Жан. сэкц. БАЗА ў Н.-Дж. | 25 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| Р. Станкевіч | 100 |
| З. Станкевіч | 32 |

Ад імя тых, каму дапамога пасылаецца й каму вельмі патрэбная, усім ахвярадаўцам выказваецца шчырая падзяка. Хай Вам Бог памагае.

**А. Рамана, В. Бартуль, Ю. Андрусышына**

# ЦАРКОЎНАЯ СПРАВА Ў ФЭДЭРАЛЬНЫМ СУДЗЕ

**Ад Рэдакцыі: На нашую просьбу паін-фармаваць аб стане судовае справы БАПЦ у сьвецкіх судох мы дасталі ад Кансысторыі БАПЦ ніжэй зьмешчаны адказ з датаю 3-га сакавіка 1988 году.**

У канцы лістапада й пачатку сьнежня 1987 г. ў фэдэральным судзе ў Філядэльфіі разглядлася справа а. В. Кендыша супраць парафіі Божай Маці Жыровіцкай БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж. Гэта быў трэйці ўжо судовы працэс супраць парафіі. Справа тут ішла пра парафіяльную маемасьць, якую а. Кендыш хацеў перанесь у кансысторыю свае Царквы. Паколькі судовая справа была запачаткаваная ў 1982 г., судзьдзя Дж. Ўільям Дытэр Малодшы абмежыў разгляд да падзеяў, што адбыліся да 1982 году ўключна.

Судзьдзя сканцэнтраваўся на двух аспэктах справы: 1. Царкоўная маемасьць. 2. Хто ёсьць БАПЦ?

У пытаньні маемасьці судзьдзя пастанавіў, што, у моц статуту БАПЦ, уся царкоўная маемасьць належыць да БАПЦ і павінна быць перапісаная на БАПЦ (але не на кансысторыю БАПЦ).

Што да кіраўніцтва БАПЦ, дык судзьдзя колькі разоў паўтарыў, што ён ня можа разьвязаць тут спрэчкі, паколькі ён ня мае на гэта ані кампэтэнцыі ані права.

Судзьдзя дарučыў адвакатам двух бакоў выпрацаваць супольна, згодна з устаноўленымі судом фактамі й заключэньнямі, канчатковыя дырэктывы для выкананьня пастановы суду. Судзьдзя раіў абодвым бакам зрабіць усе стараньні для абладжаньня спрэчкі, але не дарогаю новых судоў і змаганьня.

У ходзе разгляду справы судзьдзя зрабіў шмат спасьцярогаў; зь якіх некаторыя былі настаўленьнем для разьвязаньня справы, некаторыя — крытыкай частых судоў. Судзьдзя сказаў, што нашая малая Царква ня можа сабе дазволіць на суды. На гэта адвакат парафіі Божай Маці Жыровіцкай сп. Інгліз зазначыў, што судžаны бок не пачаў ніводнага з васьмёх цывільных сьвецкіх судоў, а ўсе яны былі запачаткаваныя другім бокам.

Судзьдзя выказаў думку, што ў нашым спэцыфічным выпадку павінны быць сярод хрысьціянаў, католікаў ці пратэстантаў, установы, што маглі-б памагчы разьвязаць нашы праблемы. І сярод нас самых, сказаў судзьдзя, павінна быць гэткая магчымасьць. Тут ізноў, сп. Інгліз сьцьвердзіў, што Архіепіскап Мікалай рабіў некалькі спробаў абладзіць справы мірным спосабам, якія аднак засталіся бяз сур'ёзнага адказу.

# ЖЫВЫМ ЗГАРЭЎ

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

Андрэй Александровіч, старшыня беларускага саюзу пісьменьнікаў, член ЦК і член ВЦВК, член камісіі, што распрацоўвала гэтак званую сталінскую канстытуцыю, быў арыштаваны разам з Харыкам у 1937 годзе, цудам выжыў і вярнуўся ў Менск у 1954 годзе зусім хворым чалавекам і маральна разьбітым.

Зэлік Аксельрод быў арыштаваны ў 1940 годзе і застрэлены на этапе канвайрам-энкавэдыстам у 1941 годзе, на самым пачатку вайны.

Зьмітрок Бядуля стаўся аб'ектам публічнага зьдзеку, але арыштаваны ня быў, не пасьпелі — ён памёр у часе эвакуацыі ў першым годзе вайны.

А Ізю Харыка арыштавалі ў 1937 годзе, і, як сьветчаць людзі, што сядзелі зь ім, у турэмнай кацельні ён кінуўся ў печ і жывым згарэў.

Але гэта яшчэ ня ўсё: трагічная доля гэбрэйскага паэта мела свой працяг.

Харык ажаніўся позна, у 35-гадовым веку. Жонка ягоная была гадоў на дзесяць малодшая. І ў іх нарадзіліся хлопчык і дзяўчатсі.

Сьледам за арыштам Харыка арыштавалі й ягоную жонку. А дзяцей, зусім яшчэ маленькіх, забралі ў прытулак. І паводля пачварнага савецкага звычаю зьмянілі ім імёны й прозьвішча — дзеці «ворагаў народу» не павінны насіць прозьвішча бацькоў сваіх, каб пасьля не саромецца...

Харыкава жонка Дзіна выжыла, па сьмерці «бацькі народаў» вярнулася ў Менск і адразу-ж пачала шукаць сваіх дзяцей, пісала лісты ў розныя інстанцыі, толькі гэтым і жыла, і адусюль даставала адказы: «Пра вашых дзяцей нам нічога ня ведама...». Яна іх і не знайшла.

А мне суджана было яшчэ раз з Харыкам спаткацца, гэтым разам пасьмяротна. У 1957 годзе, па позняй рэгабілітацыі гэбрэйскіх паэтаў і пісьменьнікаў, забітых і замучаных у савецкіх засьценках, у Маскве пастанавілі выдаць у расейскім перакладзе выбраныя вершы й паэмы Ізі Харыка, і мяне папрасілі перакласьці паэму ягоную «Круглыя тыдні». І я яе пераклаў, і зноў меў сувязь з цудоўным паэтам, забітым савецкай уладай, у якую ён верыў і якой служыў словам і справай. Вось колькі радкоў з паэмы, якую я пераклаў:

Воды плачуць мутныя,
Чараты пакутныя
Над лясной гнілой ракой Арэсай.

Вятры ўночы дзьмуюць тут,
Ваўкі ўночы выюць тут,
Дзьмуюць, ныюць, выюць тут
Над лясной гнілой ракой Арэсай.

Пошум пушчы гушчыцца,
Ў пушчы хтосьці мучыцца,
Хмары зусюль кучацца
Над лясной гнілой ракой Арэсай.

Як самотная ты, Беларусь, тут!
Як самотная!

**Андрэй Клёнаў**

# СЬВ. ПАМ. ПЁТРА ГАЙДЗЕЛЬ



Памёр др. Пётра Гайдзель якраз дзень перад грамніцамі. Пахавіны адбыліся 5-га лютага з царквы Хрыста Збаўцы. Абрад пахаваньня выканаў наш адміністратар а. Язэп Сыру.

Сьв. пам. Пётра нарадзіўся 14 ліпеня 1912 г. ў вёсцы Заяёўцы ў сялянскай дружнай і працавітай сям'і. Гімназію скончыў у Друі ў а.а. Мар'янаў. Айцы Андрэй Цікота. Язэп Гэрмановіч ды іншыя зрабілі вялікі ўплыў на маладога хлапца — ён любіў і цаніў сваю Друю й да канца жыцьця быў ўдзячны айцом за асьвету.

Мэдыцыну пачаў вывучаць на Віленскім Унівэрсытэце. Вайна перапыніла навуку. Пасьля Вільні вучыўся ў Віцебску, а пасьля — у Магілеўскім мэдінстытуце, па вайне-ж — у Нямеччыне ў Марбургу, дзе й дастаў дыплём лекара.

У 1949 г. эміграваў у Аўстралію, у Сыднэй — там ізноў вывучаў мэдыцыну, здаў экзамен ды працаваў лекарам.

У 1957 г. ўжо зь сям'ёю — з жонкай, сынам і дачкой — перабраўся ў Злучаныя Штаты. Тут здае патрэбныя экзамены ды пачынае лекарскую практыку.

У 1984 г. скончаў працаваць і перабраўся ў штат Вісконсын, недалёка ад Мэдысану, дзе вучыўся ў каледжы сын. Жыў каля возера ў ваколіцы, што нагадвала яму родную Браслаўшчыну.

Др. Пётра Гайдзель пакінуў у жалобе жонку Ірэну (з Чарнэцкіх), дачкунастаўніцу, сына-адваката й малодшага сына, яшчэ студэнта, двух унукаў і ўнучку. На Бацькаўшчыне жыве малодшая сястра нябожчыка.

Сьпі, дарагі й працавіты муж, бацька, дзядуля й швагер. Хай сьніцца Табе Браслаўшчына, Друя, Дзьвіна, Заяёўка. **В.**

*БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА «КУЛЬТУРЫ»*

Выдаваны ў Парыжы польскі месячнік «Культура» ў леташнім 11-м нумары зьмясьціў «Беларускую хроніку» — сьціслы агляд падзеяў і навінаў, пададзеных у газэтах «Літаратура і Мастацтва», «Беларускі Голас», «Голас Радзімы» ды ў польскім часапісе Więź. Агляд зроблены Юзэфам Дарскім.

### ПАДЗЯКА ЗА ПРЭСАВЫЯ МАТАР'ЯЛЫ

Шчыра дзякуем за выразкі, ксэракопі, выпіскі сп.сп. В. Тумашу Старэйшаму, М. Раецкаму, Г. Паланевічу, Ч. Найдзюку, Т. Бэрду, С. Жамойду ды сп-ні Н. Кудасавай. Дзякуючы ўсім Вам ды іншым, хто нам прысылае прэсавыя матар'ялы, газэта «Беларус», як нам кажуць чытачы, чытаецца з большым зацікаўленьнем.

**Рэдакцыя**

# СЬВ. ПАМ. МАРКА САЎКА-МІХАЛЬСКІ

Газэта брытанскае вяшчальнае карпарацыі Бі-Бі-Сі Ariel (27.I.88) зьмясьціла нэкралёг па Марку Саўку-Міхальскім, адным із штатных працаўнікоў, які трагічна загінуў у аварыі із сваім матацыклем. Марка быў сынам Міхася й Іны Саўкаў, выпускнікоў Лювэнскага Ўнівэрсытэту. Міхась Саўка, цяпер інвалід выніку хваробы, працаваў мастаком-рэстаўратарам у Брусэлі, а Іна Саўка, доктар мэдыцыны, працуе цяпер у Брусэлі.

Пакойны сын Саўкаў наведваў у Лёндане Беларускую школу айцоў Марыянаў, а апошнімі гадамі, ад 1984 г., працаваў маніторам у Бі-Бі-Сі, дзе яго высака цанілі за ягоныя веды моваў, здольнасьці й добры характар.

Сябры-лювэнцы выказваюць Міхасю й Іне Саўкам найглыбейшыя спачуваньні з прычыны сьмерці іхнага дарагога сына ды шчыра зычаць сілы духа ў цяжкім горы.

### *ЛІСТ ЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ*

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

магчыся ад праваслаўнага епіскапату ў Польшчы гарантыі адносна беларускасьці Царквы». А за колькі гэта даляраў ён купіў гэтую царкву, што називае «юрыдычна дамагчыся»? Калі ахвяры на пабудову даюць такое права, а паводля пашквілянта даюць, то што будзе, як Фіны, Японцы, Галяндцы, Канадцы, Аўстралійцы й г.д. стануць дамагацца, каб наша Царква стала іхнай?! (...)

**Заўвага й просьба Рэдакцыі:** С. Ж. ухіляецца ад цэнтральнага пытаньня ў гэтай цэлай дыскусіі: ці належыцца беларускай мове якая-небудзь роля ў жыцьці Праваслаўнае Царквы, як інстытуцыі? Ня ў гутарках зь вернікамі каля царкоўнага будынку, а ў багаслужбах, у навучаньні рэлігіі, у царкоўным выдавецтве.

Расейская мова мае сваё месца ў жыцьці ПАПЦ (прыкладам, у духоўнай сэмінарыі, у календарох ПАПЦ). Украінская мова мае месца ў пропаведзях там, дзе большыня прыхаджанаў Украінцы, і да пэўнай ступені ў выдавецтве. А беларуская?

С. Ж. ня ставіць перад сабой такога пытаньня, а амэрыканскіх Беларусаў гэта вельмі цікавіць і трывожыць. Для С. Ж. беларуская мова, калі меркаваць паводля зьместу ягонага ліста — гэта «кангламэрат зь перавагай беларускай у словах і ў вымове». А мова, якою выдаецца газэта «Ніва» або беларускія календары БГКТ — гэта-ж не «кангламэрат», гэта мова літаратурная. Дык вось гэтая беларуская літаратурная мова, ці мае яна права на сваё месца ў царкоўным жыцьці беластоцкіх парафіяў? Ці можа праваслаўны сьвятар, скажам, тае-ж Сьвятадухаўскае царквы ў Беластоку, гаварачы сваю пропаведзь, звараачацца да вернікаў беларускаю літаратурнаю мовою ды карыстацца цытатамі зь беларускамоўнага Евангельля?

Нам думаецца, што нехта зь гіерархаў ПАПЦ або з праваслаўных сьвятароў на Беласточчыне, асабліва спасярод тых, якія зацікаўленыя ў лучнасьці з амэрыканскімі Беларусамі, мусіў-бы адказаць на гэтыя пытаньні, бо яны цікавяць кожнага Беларуса, дзе-б ён ні жыў, калі ён толькі мае свой нацыянальны й чалавечы гонар.

Паважаны С. Ж., можа-б Вы яшчэ адзін ліст нам напісалі з адказам на гэтыя пытаньні?

# СЬВ. † ПАМ. МАРЫЯ ГАРОХ

Нарадзілася 15 красавіка 1906 г. ў вёсцы Баравікі Слонімскага раёну. Адыйшла на вечны супачынак 20 сьнежня 1987 г. ў Кліўленьдзе, штат Агаё. Пахаваная ў Беларускай сэкцыі Рывэрсайдзкага магільніка, пра што з глыбокім сумам паведамляюць

**Сыны Валодзя, Сяргей і дачка Валя**



Жыцьцё Марыі Гарох (Русак) ня было лёгкае й вясёлае. Сям'я была вялікая, мелі чацьвёра сыноў і тры дачкі. Дзьве дачкі памерлі ў маладым веку, а старэйшы сын Пятро быў вывезены бальшавікамі на Сібір, дзе й загінуў.

У часе сусьветнай вайны апынуліся ў Заходняй Нямеччыне, дзе працавалі на гаспадарцы, а па вайне да 1950 г. жылі ў беларускіх лягерох: Рэгэнсбургу, Міхэльсдорфе, Розэнгайме. У 1950 г. прыехалі ў ЗША, у штат Канзас, дзе працавалі на гаспадарцы. Неўзабаве перабраліся настала ў Кліўленд, штат Агаё, і далучыліся да беларускае калёніі. Тут з часам наладзілі нармальнае жыцьцё, дзеці павырасталі, аднак пакойная доўга не пацешылася, бо ў 1971 г. памёр мужык Павал, і Марыя засталася сама зь дзяцьмі, а ў 1978 г. на рака памёр старэйшы сын Алёша. Нябожчыца жыла пасьля гэтага ў сына Валодзі, а пазней — у дачкі Валі.

Далейшае ейнае жыцьцё пайшло больш спакойна, вясёла. Была задаволеная й цешылася з сваіх дзяцей, унукаў, зяця. Сьмерць прыйшла раптоўна 20 сьнежня 1987 г. на 82-гім годзе жыцьця.

Пакойная Марыя была добраю Беларускаю, належала да беларускіх арганізацыяў: аддзелу БАЗА, была адной з актыўных парафіянак, падтрымоўвала грамадзкі цэнтар Полацак, наведвала амаль усе беларускія імпрэзы, цікавілася беларускай дзейнасьцю, выпісвала газэту «Беларус» і чытала яе ад пачатку да канца. Характарам сваім была лагодная, разважлівая, не ўваходзіла ў спрэчкі, трымала цесную лучнасьць з сваімі сяброўкамі.

Адыход сьв. пам. Марыі Гарох на вечны супачынак — гэта вялікая страта для дзяцей, унукаў, парафіі Жыровіцкае Маці Божае, арганізацыяў ды наагул нашай калёніі. Сябры беларускае грамады ў Кліўленьдзе аценілі дзейнасьць і сяброўства нябожчыцы сваёй вялікаю прысутнасьцю ў часе службаў на паховінах. Пахавалі яе каля мужа на магільніку Рывэрсайд у беларускай сэкцыі.

Сьпі, дарагая сяброўка. Хай Табе будзе лёгкая амэрыканская зямелька, хай сьняцца нівы Бацькаўшчыны.

**К. П.**

# СЬВ. † ПАМ. АЎГЕН ВАРЭНІК

Сын Яна й Дамінікі нарадзіўся 22 лютага 1923 г. ў вёсцы Гавязна Нясьвіскага павету. Неспадзявана адыйшоў на вечны супачынак 1 лютага 1988 г. ў Манчэстэры, Англія. Пахаваны ў Манчэстэры на магільніку Southern Cemetery. Нябожчык быў актыўным парафіянам і харыстам у парафіі Жыровіцкае Божае Маці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Манчэстэры. З глыбокім сумам паведамляем ды выказваем шчырыя спачуваньні спадарожніцы яго жыцьця Марыі.

**Настаяцель і Парафіяльная Рада БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры**

***З жыцьця ў Аўстраліі***

### УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ А. САЛАЎЯ

У Мэльбурне ў Аўстраліі 23 студзеня была ўшанаваная памяць нашага слаўнага паэта Алеся Салаўя, які памёр дзесяць гадоў таму. На кватэры ў жонкі нябожчыка сп-ні Зіны Кадняк сям'я Пакойнага, сын і дачка зь дзецьмі, ды сябры правялі супольна чатыры гадзіны ў успамінах. Слова пра паэта сказаў сп. М. Скабей. Была нагода паслухаць запіс голасу Алеся Салаўя ў гутарках зь сябрамі й дзецьмі ды ўнукамі.

Ад імя запрошаных найшчырэй дзякую сп-ні З. Кадняк за часіны прыемных успамінаў.

**М. Н.**

### ПАПРАЎКА

У № 343 «Б-са» памылкова былі напісаныя прозьвішчы Маргарэты й Міхася **Раецкіх** з Пэрту ў Аўстраліі. Выбачаемся. **Рэдакцыя**

### «РЭХА МАЛІТВЫ» ЗЬНІЧА

У выдавецтве газ. «Беларус» коштам Фундацыі імя П. Крэчэўскага выходзіць зборнік вершаў зь Беларусі пад заг. «Рэха малітвы». Вершы напісаныя ў Менску ў 1981 годзе. У зборніку 26 вершаў зь беларускай патрыятычнай, рэлігійнай і філязофскай тэматыкай. Увод у паэзію Зьніча напісаў Янка Запруднік. Цана зборніка: 3 дал., чэкі слаць на «Беларуса».

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| М. Грэбэнь | ам. д.50 |
| М. Раецкі | 36 |

### БЕЛАРУСКІЯ ІКАНАСТАСЫ

ПРОСІМ ПРЫСЛАЦЬ ЗДЫМАК ІКАНАСТАСУ ВАШАЕ ЦАРКВЫ ДЛЯ ЗЬМЯШЧЭНЬНЯ Ў ТРАВЕНЬСКІМ НУМАРЫ «БЕЛАРУСА» НА АДЗНАЧЭНЬНЕ 1000-ГОДЗЬДЗЯ ХРЫСЬЦІЯНСТВА